# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №24 (145) 27 ВЕРАСЬНЯ 1999г.


***Наталя Вітрэнка — «Канатопская ведзьма» — кандыдат № 1 на прэзыдэнта Ўкраіны. Камэнтар кіеўскага палітоляга Максіма Стрыхі на старонцы 5.***

***Тэма нумару:***

***«Самаедзтва гісторыкаў».***

*У чым адрозьненьне паміж акадэмічнай і папулярнай гістарыяграфіяй? Чытайце на старонках 6—7.*

## Да гісторыі злачыннасьці ў СССР

**Урывак з новай кнігі былога вязьня, аднаго з кіраўнікоў Нарыльскага паўстаньня 1953 году, Рыгора Клімовіча**

на старонках 8—9.

*Учора адбыўся зьезд партыі БНФ паводле вэрсіі Пазьняка*

# Чым вузейшае кола, тым даўжэйшая назва

**БНФ стаў Хрысьціянска-кансэрватыўнай партыяй Беларускага Народнага Фронту. А «Адраджэньне» можа стаць базай для новага шырокага нацыянальна-дэмакратычнага руху**

***Пазьняк пайшоў на раскол Фронту. Рубікон пяройдзены. Галоўнае пытаньне цяпер стаіць зусім іншае: ці зможа маладзейшае пакаленьне палітыкаў на руінах старых палітычных партыяў, якія разваліліся не без удзелу рэжыму, згуртаваць новы фронт, новы шырокі рух, адзіны і сучасны, які зможа разваліць рэжым.***

Учора ў клюбе менскай абутковай фабрыкі «Луч» адбыўся IV зьезд партыі БНФ. Юрыдычная сіла гэтага мерапрыемства ад пачатку была сумнеўнаю. Зьезд быў скліканы Зянонам Пазьняком, які й прызначыў гэтую дату, хаця Сойм БНФ «Адраджэньне» прыняў рашэньне правесьці зьезд партыі разам са зьездам руху 30—31 кастрычніка. Аднак, на думку сп.Пазьняка, у статуце партыі ня пішацца, што тэрмін правядзеньня зьезду мусіць прызначацца Соймам. Калі сп.Каролік узяў слова й паведаміў, што на зьезьдзе прысутнічае 141 дэлегат, хоць для кворуму было б дастаткова і 137, заля з палёгкай уздыхнула. Тытанічная арганізацыйная праца авангарду нацыянальна-дэмакратычнай барацьбы не пайшла на глум.

Старшыняваў сп.Беленькі, і пасьля слова мандатнай камісіі ён запрапанаваў даць слова сп.Лявону Баршчэўскаму, які выконвае абавязкі старшыні БНФ.

*Працяг і камэнтары на старонцы 3.*




Фота IREX-ProMedia.

## зь Беларусі за суботу й нядзелю

### Папаўся, Жучку, у панскую ручку!

Менскі судзьдзя Савіч за пятніцу разгледзеў позву генэрала Шэймана да газэты «Навіны» й журналіста з «БДГ» Аніські за абразу гонару. Адказчыкі прасілі пра моўную экспэртызу і каб Шэйман паказаў тэхпашпарт на дом, але суд гэта адхіліў. Шэйман некалі быў сябрам ЗВВ, а цяпер яго лічаць меншым беларусажэрам, чым Замяталін ці Ціцянкоў. «Навіны» напісалі, што Шэйман у Падліпках збудаваў хароміну, а аказалася, што гэта нібы не яго дом, а некага іншага, а ягоны побач — малы. Судзьдзя бязь літасьці засудзіў «Навіны» на 10 мільярдаў рублёў кары, а Аніську — на 5 мільярдаў. Павал Жук, заснавальнік «Навінаў», кажа, што месячны даход выданьня — усяго 80 мільёнаў і што цяпер газэта мусіць зачыніцца, а будзе выдавацца новая — «Наша свабода».

### Serial Killer у Быхаве

У Быхаве прысудзілі да сьмерці забойцу чатырох кабетаў. Трох зь іх ён у сябе ў дварэ закапаў. Начытаўся дурных газэтаў і называў сябе «санітарам грамадзтва».

### 25% мае грошы

БелаПАН піша, што НДІ Мінэканомікі апытваў людзей, як яны жывуць. Выявілася, што 46% «ледзьве сточваюць канцы з канцамі», а 7% завінаваціліся грошы, а 9% праядаюць свае ашчаджэньні. Затое 23% удаецца крыху ашчаджаць, а 2% дык і шмат. 13% пабаяліся адказаць на пытаньне. Паводле прафсаюзаў, самае дарагое жыцьцё ў Менску, а тады ў Горадні, самае таннае — у Віцебску, а тады ў Берасьці. Розьніца між Менскам і Віцебскам вялікая: 13% ад менскага «спажывецкага кошыка» (які роўны 10 мільёнам 40 тысячам).

### ГЭС на Нёмане

У 10 км ад Горадні пабудуюць ГЭС, плаціна-мост будзе ўвышкі на 9 мэтраў, затопіць пад вадасховішча 300 гектараў зямлі. Будова каштавацьме пад 25 мільёнаў даляраў. Спачатку думалі пабудаваць каскад з 6 ГЭС, а пасьля абдумаліся на дзьвюх: гэтай Гарадзенскай і яшчэ адной, Нёманскай, піша БелаПАН.

### Хадзілі разьбірацца

Літоўская паліцыя злавіла ў паўкілямэтры ад мяжы, пад Апікартамі, трох беларускіх міліцыянтаў зь Івейскага раёну, а зь імі дзядка 78 гадоў з Гарадзенскага па прозьвішчы Грынюк. Адзін міліцыянт быў у форме і зь пісталетам, рэшта — зь міліцэйскімі паперамі. Яны быццам бы хадзілі ў Салечніцкі раён разьбірацца, хто скраў карову ў Грынюка. Пасадзілі ў каталажку.

# Расея хоча зьнякровіць Чачэнію

**Расейска-чачэнскі крызыс — падстава для нагнятаньня гістэрыі ў Беларусі**

Гістэрыя, выкліканая тэрактамі ў Расеі, апанавала расейскае грамадзтва. Няўменьне расейскіх сілаў бясьпекі супрацьстаяць тэрарызму накладаецца на няўменьне грамадзтва кіравацца пры вырашэньні балючых пытаньняў розумам, а не эмоцыямі. Здаецца, яшчэ адзін-два выбухі, і вокліч "бі чарнамазых" панясецца па неабсяжных прасторах.

Дзякуючы выбухам, расейскі генэралітэт атрымаў нарэшце тое, чаго ня меў пад час першай вайны ў Чачэніі: грамадзкую падтрымку і інфармацыйнае забесьпячэньне СМІ.

Генэралы вырашылі скарыстаць досьвед NATO ў Іраку і Сэрбіі і пачаць з мэтадычных і працяглых удараў з паветра, балазе ў Чачэніі няма супрацьпаветранай абароны. Учора бамбаваньні не спыняліся ні на хвіліну: у небе над Чачэніяй пазьменна віселі па два зьвяны штурмавікоў. Над Джахар-Калой стаяць вялізныя слупы чорнага дыму: расейцы б'юць па нафтаперапрацоўчых прадпрыемствах у Акцябарскім раёне чачэнскай сталіцы.

Істотнае адрозьненьне расейскіх войскаў ад войскаў NATO заключаецца ў тым, што расейскія паветраныя сілы ня здольныя працяглы час наносіць «кропкавыя» ўдары — адпаведнай тэхнікі мала, тая, што ёсьць, знаходзіцца ў непрацоўным стане, а карыстаньне і баепрыпасы каштуюць так дорага, што грошай у расейскіх вайскоўцаў хапіла толькі на пару ўдараў, каб зьняць неабходныя прапагандысцкія кадры для ТВ. Што гэта значыць? Гэта значыць, што бомбы кідаюць мэтадамі другой сусьветнай вайны. Колькасьць мірных ахвяраў за тыдзень слабаінтэнсыўных расейскіх бамбёжак ужо перавысіла колькасьць мірных ахвяраў за ўсю апэрацыю NATO ў Сэрбіі. Цэлямі натаўскіх налётаў былі найперш сэрбскія стратэгічныя аб'екты, а не зьнішчэньне жывой сілы, а расейцы не хаваюць, што іхная задача — «зьнішчыць жывую сілу баевікоў».

Але размовы пра «ўдары па баевіках» — толькі прыкрыцьцё. Амаль усе ўдары наносяцца па значных гаспадарчых аб'ектах. Расея хоча зьнякровіць Чачэнію.

Радыкальнае адрозьненьне сёньняшняй сытуацыі ад 1994-га заключаецца ў абыякавасьці расейскага грамадзтва да канфлікту. Па-першае, папросту зьвыкліся зь любою вайною й крывёю. Па-другое, прайшлі праз моцную псыхалягічную апрацоўку шокам тэрактаў. Дарэчы, невядома кім замоўленых і арганізаваных. За якія ніхто ня ўзяў адказнасьці. У якіх ісламісты ня мелі ніякай тактычнай ці стратэгічнай патрэбы. Справай рук адзіночак яны быць не маглі — надта ж сынхранізаваныя выбухі ў розных рэгіёнах Расеі. Тыя, каму ў Маскве шыюць арганізацыю тэрактаў, ня маюць відавочнай сувязі зь імі. Гэта наркадзялкі, бандыты, гандляры зброяй родам з Каўказу, але не тэрарысты. На іх гэтыя справы вешаюць, аднак яшчэ пабачым, што на гэты конт скажа суд. Каб сказаць, хто сапраўды стаіць за тэрактамі, трэба адказаць на пытаньне, каму яны выгодныя.

Сёньня ўсё большую падтрымку мае ідэя мэра Масквы Лужкова пра пабудову на мяжы з Чачэніяй жалезнай заслоны й санітарнага кардону — але пры гэтым ніякай незалежнасьці. І зьнякровіць эканамічна. І так трымаць, пакуль не папросяцца назад у Расею. О, гэтая наіўная расейская ілюзія, што нехта яшчэ будзе прасіцца назад у маскоўскі рай!

Тое, што Чачэнія менавіта ў выніку падобных дзеяньняў канчаткова пераўтворыцца ў край жабракоў і бандытаў і будзе несьці пэрманэнтную пагрозу бясьпецы паўднёвай Расеі, не разумеюць ці замоўчваюць.

Расея, ня маючы палітычнай волі прызнаць незалежнасьць Чачэніі, выракае сябе на і жыцьцё з заўсёдным ачагом нестабільнасьці пад бокам. Можа, гэта й выгадна пэўным расейскім палітычным колам. Але гэта прыносьціць чачэнскаму й расейскаму народам вялікія пакуты. Чачэнія ня мае юрыдычных падставаў, каб атрымаць дастатковую міжнародную легітымнасьць, эканамічную і вайсковую падтрымку для спыненьня расейскай агрэсіі. Сытуацыя патавая. Калі б Чачэнія была суб'ектам міжнароднага права, на яе тэрыторыі цяпер прысутнічалі б прадстаўнікі міжнародных арганізацыяў, якія б аўтарытэтна засьведчылі, што ніякіх «базаў баевікоў» там няма. Калі б яна была суб'ектам, яна б атрымала крэдыты на адбудову эканомікі, і чачэнская моладзь знаходзіла б працу на радзіме, ня маючы патрэбы працаваць на эміграцыі, ствараючы канкурэнцыю расейскім аднагодкам. Сытуацыя можа пачаць вырашацца, калі нейкая краіна прызнае незалежнасьць Чачэніі. Пэрспэктыва канчатковага акрэсьленьня статусу тады дасьць ёй новыя правы, але й новыя міжнародныя абавязкі, якія яна — няма сумневу — будзе выконваць.

Гістэрыя з Расеі пераходзіць і да нас, бы эпідэмія. У грамадзкім транспарце ўжо можна знайсьці ўлёткі, у якіх тлумачыцца, як весьці сябе ў разе катастрофаў. Цікава, што маецца на ўвазе: землятрус ці тайфун? Замест каб супакойваць людзей, іх актыўна прывучваюць да думкі пра непазьбежнасьць тэрактаў і авіяналётаў. Кажуць, «лёс у нас адзіны» і «нікуды нам ад Расеі ня дзецца». Міжволі думаецца: штосьці рыхтуецца. Калі нехта, карыстаючыся сувязямі з расейскім крымінальным сьветам, змог зарганізаваць зьнікненьне беларускіх палітыкаў, дык чаму б гэтаму некаму не падарваць дом у Менску? А тады ўсё зваліць на апазыцыю: «Яны даўно былі заадно з чачэнцамі».

Бо ў Расеі цяпер два галоўныя суседы: Чачэнія і Беларусь.

**Барыс Тумар, Андрэй Андрыеўскі**

# Правы чалавека і правы народу

Правы і свабоды чалавека — гэта, паводле трапнага выразу польскага праваабаронцы Марэка Навіцкага, шчыт, які прыкрывае чалавека ад замахаў з боку дзяржавы. Яны абараняюць людзей ад зьнявагі іх чалавечай годнасьці з боку дзяржаўнай улады, патэнцыйна найбольшага парушальніка правоў і свабодаў. Улады схільныя парушаць правы людзей, бо гэтак ім лягчэй кіраваць. Прыкладам у гэтым, на жаль, зьяўляецца Рэспубліка Беларусь, дзе груба парушаюцца амаль усе правы і свабоды чалавека: свабода слова і дэманстрацыяў, недатыкальнасьць асобы і яе маёмасьці, свабода атрымліваць адукацыю на роднай мове, свабода прадпрымальніцтва і г.д.

*Артыкул Сямёна Шарэцкага на старонцы 4.*

лісты ў рэдакцыю

*На далёкім востраве Тыморы інданэзійцы выразаюць усходніх тыморцаў за тое, што тыя жадаюць свабоды і незалежнасьці. У далёкім Дагестане расейцы з уласьцівым ім бязладзьдзем абрынуліся на два горныя аулы, што захацелі жыць па-свойму. Пра разьню на Тыморы расейскае тэлебачаньне мала паведамляла, не да таго было. Вайна ў Дагестане стала ледзь не дзяжурным шоў пра ўзорную карную экспэдыцыю: пабачце, як мы паразумнелі, як мы — нарэшце! — навучыліся файна ваяваць у хатніх умовах.*

*Расейцы ў Маскве думалі адседзецца на гарах, назіраючы бойку тыграў у даліне. Ня выйшла.*

*Тры надзвычай эфэктныя тэрарыстычныя акцыі памянялі сытуацыю: фанабэрыстая сталіца імпэрыі атрымала дзёрзкую аплявуху на вачох усяго белага і чорнага сьвету. Бойкі на язык тэлезброд патрабуе помсты па прынцыпе «два вокі за вока і два зубы за зуб». Антычачэнская істэрыя набыла непрыстойныя для такой вялізнай дзяржавы як Расея памеры. Страта нявінных чалавечых жыцьцяў заўсёды выклікае пратэст і ня можа быць апраўданая. Але неяк вельмі ўжо сэлектыўна, па-расісцку, перажоўваюць маскоўскія выбухі ў Беларусі. Калі мірных жыхароў забівае дзяржава, дык гэта вайна, калі гэта робіцца ў адказ, дык гэта тэрарызм.*

*Пра тэракты ў сталіцы імпэрыі перажываюць дзясяткі тысяч беларускіх маргіналаў і пралетараў, уключна з былым прэзыдэнтам, векавечным сэнатарам... Выпіўшы пляшку гарэлкі, яны пачынаюць патрабаваць маё меркаваньне наконт гэтага. Ім няўцям, як гэта можна біць мірных сэрбаў у Бялградзе і маскалёў у Маскве. Якія бесчалавечныя NATO і чачэнцы! Разам з прапагандыстамі новага анабазысу на Чачэнію яны б у парашок сьцерлі тую зямлю. Яны дзівяцца, чаго іх ня любяць чачэнцы, прыродныя ліхадзеі. Здаецца, вось-вось чачэнцы будуць абвешчаныя шайтанамі, а не людзьмі.*

*Заклікаць да розуму, да роздуму марна. Кропкі над «і» даўно пастаўленыя. Ісьціна адна, і яна на нашым баку. Спрэчка вядзецца толькі дзеля пацьверджаньня ўласнай праведнасьці, усё іншае — ерась.*

*Яны ня хочуць майго меркаваньня. А я думаю так: я задаволены, што нашы беларускія хлопцы дома і нашы беларускія маці сьпяць спакойна. Я задаволены, што Расея знайшла ў бюджэце мільярды на вайну. «Цяжкасьці для Расеі — магчымасьці для Беларусі». Пра ўсё астатняе хай думаюць і перажываюць самі. У мяне неўрадлжай картопляў, і ў калгасе мне не далі сена.*

***Мікола Бусел, вёска Дуброва, Мірная Беларусь***

# КГБ у ЗБСе

23 верасьня ў офіс Задзіночаньня беларускіх студэнтаў завітаў старшы лейтэнант Камітэту дзяржаўнай бясьпекі Г.Сысой. Напярэдадні ён тэлефанаваў старшыні ЗБС Крысьціне Сідун і настойліва прапаноўваў сустрэцца, каб пазнаёміцца з гэтай студэнцкай арганізацыяй і абмеркаваць нейкія пытаньні. Размова тычылася пікетаў, якія будзе ладзіць ЗБС 27 і 28 верасьня. Пікеты пройдуць пад назвай «Кожнаму студэнту па даху». Мэта гэтых пікетаў — прыцягненьне ўвагі да праблемы з расьсяленьнем студэнтаў па інтэрнатах. Менавіта гэтая актыўнасьць, ніяк не палітычная, напярэдадні акцыяў апазыцыі і выклікала занепакоенасьць органаў дзяржбясьпекі. Размова доўжылася каля 20 хвілінаў. На працягу размовы ст.лейтэнант Г.Сысой задаваў пытаньні аб колькасьці студэнтаў у арганізацыі, аб мерапрыемствах, якія плянуе праводзіць у будучым ЗБС. Са словаў сп.Г.Сысоя, ягонае ведамства вельмі цікавіцца праблемамі студэнтаў, іх вучобай, цяжкасьцямі, якія ўзьнікаюць у стасунках студэнтаў з выкладчыкамі. Таварыш з КГБ прапанаваў Крысьціне Сідун у выпадку ўзьнікненьня нейкіх цяжкасьцяў зьвяртацца па дапамогу да іх у КГБ, і яны абавязкова разьбяруцца з гэтым, дапамогуць студэнтам і з вучобай, і з атрыманьнем інтэрнату, толькі, маўляў, пікеты не выстаўляйце, не актывізуйце студэнцкіх масаў. ЗБСу прыемна: увага!

**Студэнт**

дзе варта быць

## Дзеяньні

**30 верасьня — работніцкі пратэст.** Прафсаюзы абяцаюць вывесьці на вуліцы 50 тысяч чалавек. Дазвол ім далі толькі на мітынг на плошчы Бангалор.

## У Заслаўі

У Заслаўскім музэі-запаведніку кавальская **выстава «Звонкая песьня мэталу»** аж да пачатку лістапада. Гэта першая ў сваім родзе выстава за некалькі дзесяцігодзьдзяў. Выстаўленыя скульптуры, рэчы хатняга ўжытку, рэканструяваныя гістарычныя рарытэты.

## У Горадні

Гастролі менскай Опэры на сцэне драмтэатру. 30 верасьня і 1 кастрычніка **«Сэвільскі цырульнік»** Расіні, а 2 і 3 кастрычніка — **вечар рамансаў.**

## Тэатар

Купалаўскі тэатар традыцыйна распачынае сэзон **«Паўлінкай»** (1, 2 кастрычніка). 3-га даюць апошнюю пастаноўку Валерыя Раеўскага **«Піраміда Хеопса»** паводле сучаснага расейскага драматурга Ю.Ломаўцава. Матэрыял змрочны — сёньняшняя расейская безвыходнасьць для маленькага чалавека. Цікавая акторская работа ў Гарцуева.

На «Вольнай сцэне» 2 і 3 кастрычніка можна паглядзець **«Апошнюю пастараль»**, спэктакаль-ляўрэат леташняга Фэстывалю беларускай драматургіі. Узяўшы за аснову аднайменную аповесьць Алеся Адамовіча, рэжысэр Мікалай Дзінаў сродкамі плястыкі й складанай сцэнаграфіі стварае свой «фантастычны трылер-кліп часоў Апакаліпсысу». Апроч выдатнага тандэму Сігова й Сідаркевіч, у спэктаклі працуюць зонгі А.Федаровіча ды З.Бартосіка на музыку С.Залётнева.

У Балеце расклад такі: 28 верасьня **«Пікавая дама»** Чайкоўскага, 30 — М.Рымскі-Корсакаў, **«Царская нявеста»**, 31 — Ц.Кюі, **«Кот у ботах»** (дзіцячы музычны тэатар-студыя).

Зьдзіўляе сваёю плоднасьцю Мікалай Пінігін. Не пасьпела адгрымець адна прэм'ера, як мянчук нам рыхтуе новую. 4 кастрычніка на падмостках ДК НКВД (Камсамольская, 30) нас чакае спэктакаль паводле Пятра Гладзіліна **«Боты на тоўстай падэшве»**. Прадусар антрэпрызы — «Альфа-радыё». У спэктаклі занятыя В.Клебановіч, У.Мішчанчук і А.Журавель.

Сёньня ў ДК прафсаюзаў — **«Бедная Ліза»** ў пастаноўцы Пінігіна.

## Канцэрты

1 кастрычніка на адкрыцьцё сэзону ў Філярмоніі будуць іграць **Дзявятую сымфонію Бэтговэна** і **Дзясятую сымфонію Смольскага.** Іграе Акадэмічны сымфанічны аркестар, сьпявае Акадэмічная харавая капэля імя Шырмы, дырыжор Генадзь Праватараў.

## Кіно

Пасольства камуністычнага Кітаю ў менскім кінатэатры «Перамога» (вул. Інтэрнацыянальная, 20) з 27 верасьня па 3 кастрычніка ладзіць **тыдзень кітайскага кіно.** Кітайцы прывезьлі самыя цікавыя іграvыя стужкі апошняга часу. Цікаўныя змогуць убачыць наступныя фільмы: **27 — «Пераможца», 28 — «Опіюмная вайна», 29 — «Спакуса ад доўгай касы», 30 — «Гатэль «Лунмэнь», 1 — «Міліцыянт у 1988 годзе», 2 — «Сьмелыя хлопчыкі-баксэры», 3 — «Барацьба за развод».** Пачатак сэансаў а 19-й.

У гэты ж дзень а 19-й гадзіне ў Палацы Прафсаюзаў пасольства Францыі прадставіць рэтраспэктыву **«Даніна павагі кароткамэтражнаму кіно: кароткія фільмы вакол сьвету».** Нічога асаблівага, з адметнага толькі **«Аўтобус»** (1992), «Залатая пальмавая галінка» ў Канах і «Оскар» за лепшую кароткамэтражку.

Расклад **паказаў відэафільмаў** у клюбе на сядзібе ТБМ (Румянцава, 13) на суботу 2 кастрычніка:

16.20: камэдыя **«Маска»** з удзелам Джыма Керы.

18.00: мультфільм **«Балта»**.

## Фота

Да 30 верасьня ў Музэі сучаснага мастацтва — **выстава брытанскіх фотамастакоў з фотаклюбу «Picture House»**, наладжаная менскім фотаклюбам.

Інстытут Гётэ ды Беларуская Акадэмія Мастацтваў 1 кастрычніка запрашаюць на **выставу «Набліжэньне й аддаленьне»** з сэрыі «Фатаграфія ў Нямеччыне з 1850 году да нашых дзён». Ёсьць такі музэй БАМ (пр. Скарыны, 81А — гэта ў двары).

## Вечарыны

28 верасьня ў Доме Літаратара а 18-й гадзіне Сяргей Патаранскі, Віктар Сьлінко, Мікола Адам ды іншыя сябры аб'яднаньня пачаткоўцаў з гучнай назвай «Літаратар» распачнуць **вечарыну паэтаў і бардаў.**

У чацьвер жа, 30 верасьня а 18-й у Доме Літаратара (вул. Фрунзэ, 5) адбудзецца **прэзэнтацыя новага часопіса NIHIL**: Поле Эстэтычных Досьледаў, арганізаваная нейкім Новым Фронтам Мастацтваў. Удзел бяруць Міхась Баярын, Андрэй Хадановіч і бумбамлітаўцы. На прэзэнтацыі таксама будзе праходзіць выстава Аляксея Іванова, Арцёма Рыбчынскага і Сяргея Ждановіча, гурт «Правакацыя». Уваход вольны.




## Выставы

У малой залі Музэю сучаснага мастацтва **выстава** магілёўкі **Веры Юркавай «Мой сусьвет».**

У Нацыянальным мастацкім музэі да 17 кастрычніка працягваецца **выстава, прысьвечаная 70-м угодкам Арлена Кашкурэвіча.** Ці меў рацыю Адам Глёбус, які ў «Суайчыньніках» напісаў пра перайманьне Кашкурэвічам Рэната Гутуза? Даведайцеся.

28 верасьня ў Выставачным комплексе на Машэрава адкрыецца **выстава «Дрэваапрацоўка '99»**, на якой будуць выстаўляць і гандляваць дрэваапрацоўчае абсталяваньне.



## Папса

30 верасьня ў менскім клюбе «Тытанік» адбудзецца «найвялікшае шоў другога тысячагодзьдзя» — да нас прыяжджае **тэлезорка Верка Сярдзючка** (кім папраўдзе зьяўляецца Андрэй Данілко), якая гаворыць на суржыку — гэта такая ўкраінская трасянка. Гледачам абяцаюць «трагікамічны фарс з элемэнтамі постмадэрнісцкага фальклёру» ці то інтэрнацыянальна-папсовы кіч.

**Зьміцер Бартосік, Аляксандар Кудрыцкі**

спорт

# БІЯТЛЁН БЯЗЬ СЬНЕГУ




Фота IREX-ProMedia.

*Нумар 43 — Вадзім Сашурын*

З 22 па 26 верасьня ў Раўбічах прайшоў чацьверты чэмпіянат сьвету па летнім біятлёне. Беларусы ўзялі 2 залатыя і 2 срэбныя ўзнагароды.

Навінка міжнароднай фэдэрацыі біятлёну пасьпяхова прыжываецца ў міжнародным календары. Саступаючы і як відовішча, і паводле ўзроўню ўдзельнікаў клясычнаму біятлёну, летнія чэмпіянаты сьвету, тым ня менш, з кожным годам усё болей перастаюць успрымацца як дзіва і робяцца сталым і звыклым этапам у падрыхтоўцы біятляністаў да зімовых кубку й чэмпіянату сьвету.

Прадстаўнікі такіх біятлённых краінаў, як Нямеччына, Швэцыя, Расея збольшага імкнуцца рыхтавацца да сэзону на сьнезе. Нават лепшыя беларускія біятляністы Айдараў і Рыжанкоў праігнаравалі "родны" чэмпіянат. Яны цяпер у Фінляндыі, дзе ўжо можна стаяць на лыжах. Але для большасьці беларускіх біятлянiстаў (з-за беднасьці ня ўсе нашы лепшыя спартоўцы могуць выяжджаць у сьнежныя краі), для спартоўцаў другога эшалёну зь іншых краінаў, летнія чэмпіянаты — выдатная магчымасьць праверыць узровень уласнае падрыхтоўкі. Пагатоў, што называецца гучна: чэмпіянат сьвету. Нягледзячы на нізкі пакуль што аўтарытэт спаборніцтваў, у Раўбічы сёлета прыехалі расеец Аляксей Кобелеў, латышы Ілмарс Брыцыс і Алег Малухінс, расейка Сьвятлана Ішмуратава.

Ужо чацьвер прынёс Беларусі дзьве ўзнагароды ў мужчынскім спрынце на 6 км: крыху нечаканае золата Рустама Валівуліна і срэбра Вадзіма Сашурына. Малады экс-расеец, які выступае за Беларусь другі сэзон, заявіў аб сабе гучна, прайшоўшы дыстанцыю з выдатнай хуткасьцю і толькі раз зпудлаваўшы (як і Сашурын). У жаночым спрынце на 4 км Іне Шэшкель крыху забракла, каб заваяваць бронзу. 24 верасьня прынясло беларусам яшчэ посьпех: у гонцы перасьледу на 8 км пераможа Сашурын. Герой першага дня Валівулін пацьвердзіў вядомую тэзу пра маладосьць і нестабільнасьць: ён быў 12-м пры 8 (!) пудлах. У жаночай гонцы перасьледу на 6 км Іна Шэшкель і наш лідэр Сьвятлана Парамыгіна былі 4-ю і 5-ю. Посьпех расейскіх біятлянiстак (яны ўзялі ўсе мэдалі), якія прывезьлі ў Беларусь свой другі (калі ня трэці) склад, падкрэсьліў слабы сярэдні ўзровень чэмпіянату.

Нядзельныя эстафэты скончыліся прадказальнымі перамогамі расейскіх зборных. Беларуская мужчынская зборная заняла 5-е месца. Серабро дасталася латышам, бронза — Эстоніі. Затое беларускія біятляністкі пацешылі нас на фінішы, заваяваўшы срэбныя мэдалі. Бронзавыя мэдалі ўзяла Ўкраіна.

Беларускіх біятлянiстаў, якіх можна аднесьці да сусьветнай эліты, тры: Сашурын, Айдараў і Рыжанкоў. Пасьля таго, як скончыў выступаць А.Папоў, стабільнага чацьвертага ў нашай зборнай няма. Летась някепска паказаў сябе Пятро Івашка. Цяпер у яго зьявіўся канкурэнт Валівулін. Што тычыцца беларускай жаночай зборнай, то яна наўрад ці пацешыць перамогамі: толькі Парамыгіна стала выступае ў эліце. Але яе лепшыя гады ўжо мінулі.

Біятлён — адзін з самых беларускіх відаў спорту, вось толькі са сьнегам і грашыма маем праблемы.

**Андрэй Андрыеўскі**

# Чым вузейшае кола, тым даўжэйшая назва

*Працяг са старонкі 1.*

Аднак, гэта выклікала нечакана бурную адмоўную рэакцыю залі. Прысутныя лямантавалі: давай далей абмяркоўваць парадак дня, Баршчэўскі ўжо нагаварыўся. Праз пару хвілінаў старшыня зноў пачаў прасіць за сп.Баршчэўскага, які ўсё дасылаў у прэзыдыюм цыдулкі. Аднак большасьць ізноў абурылася.

Пастанавілі тымчасам зачытаць даклад Зянона Пазьняка. Чытаў сп.Крыжаноўскі. Пасьля першага ж сказу: «...Вітаю Вас у Бацькаўшчыне, якая скора стане свабоднай...» — заля выбухнула авацыямі.

У дакладзе падкрэсьленыя некалькі прынцыповых палітычных момантаў. Найперш, уводзіцца новыя пакуль тэрміны «каляніяльная дэмакратыя» й «каляніяльная апазыцыя», пад якімі разумеюцца тыя сілы, для якіх незалежнасьць Беларусі ёсьць, нібы, справай факультатыўнаю. Рэзкай крытыцы паддалі тут «Хартыю '97», якая, разам з «Шараметамі», працуе на расейшчыну. Яны, у пары з лукашыстамі, гэта «адзіная двухполюсная сыстэма». У дакладзе асаблівы ўпор быў зроблены й на праблеме «маральнага выбару», адпаведнасьці мэтаў і мэтадаў.

*Што ж рабіць?* На думку Пазьняка — вяртаць мараль. А недзяржаўныя арганізацыі разбураюць мараль. Ніхто не павінен аплочваць нашую палітыку. Ня трэба чужых грошай, трэба веры ў Беларусь.

*Што трэ было рабіць?* Стварыць грамадзянскі парлямэнт адразу пасьля 21 ліпеня ды сабраць пару соценъ тысячаў подпісаў. Разьвіваць кампанію запісу ў грамадзянства БНР. «Я ўраджаны зрывам» гэтай кампаніі, сьцьвярджае Пазьняк, ускладаючы віну на «дэмакратаў новае хвалі».

*Чаго не рабіць?* Дзеля чаго клікаць 100 тысячаў чалавек на вуліцу — задаецца пытаньнем старшыня БНФ. Гэта, на ягоную думку, гапонаўшчына.

Пасьля дакладу высілкамі сп.Куліка й сп.Беленькага слова атрымаў і Л.Баршчэўскі, які эмацыйна пачаў пераконваць прысутных, што гэтае мерапрыемства — ня зьезд, а проста сход. Потым ён вінаваціў ініцыятараў мерапрыемства ў многіх інсынуацыях і хлусьні. Напрыклад, хлусьня тое, што гэтую ініцыятыву падтрымаў Васіль Быкаў. Быкаў, паводле словаў Баршчэўскага, заявіў, што ён застанецца ў Сойме партыі БНФ толькі ў выпадку, калі яны не дапусьцяць расколу. Далей ён абвінаваціў сп.Папкова, што той сфальсыфікаваў ліст Шушкевіча (які ўчора быў прысланы факсам ва Ўправу БНФ), а арганізатараў — у крадзяжы пячаткі партыі. У залі узьняўся гвалт, але выступоўца на правах шараговага партыйца шчэ заўважыў, што менавіта гэтак званая «каляніяльная апазыцыя» сядзіць у турмах і яе прадстаўнікі зьнікаюць бясьследна. «Адзінства на новых падставах», прапанаванае сп.Пазьняком (якое фактычна азначае «хто са мною, той застаецца ў партыі»), заўважыў сп.Баршчэўскі, гэта разбурэньне Фронту. Пад нядобры гул у залі Лявон Баршчэўскі рашуча пакінуў аўдыторыю.

Але гэтым ён ня зьбіў з тропу ні прэзыдыюм, ні сход. Яны перайшлі да пратакольных мерапрыемстваў. Усе рашэньні прымаліся амаль аднагалосна. Апроч іншага, вырашылі перайменаваць партыю ў Хрысьціянска-кансэрватыўную партыю Беларускага Народнага Фронту. Пасьля выбралі Пазьняка, намесьнікаў сьпісам: спсп.Анцыповіча, Беленькага, Папкова, Старчанку — і 47 сябраў Сойму, сярод якіх Васіля Быкава й Рыгора Барадуліна, хоць ні першы, ні другі ў зьезьдзе ўдзелу ня бралі (Рыгор Барадулін хворы, ляжыць у шпіталі). Між галасаваньнямі Юры Беленькі ўрачыста павіншаваў прысутнага ў залі старога бэнээфаўца, вядомага беларускага пісьменьніка Артура Вольскага з 75-цігодзьдзем.

**Міхал Пяткевіч**




Фота IREX-ProMedia

VI Зьезд БНФ «Адраджэньне», 1 жніўня 1999 году

# НА МАРШЫ

**_Зьезд пазьнякоўцаў адрозьніваўся бязьмежнай дэкляратыўнасьцю, за якой не відаць ні дзеяньняў, ні пляну дзеяньняў, ні нават патэнцыялу нешта зрабіць_**

Атмасфэра, якая папярэднічала зьезду-сходу і панавала на ім, насьцярожвала сваёй напаўсакрэтнасьцю. Ужо ад рана ў суботу ўзбуджаныя сябры БНФ чакалі якіх вестак каля сваёй менскай сядзібы. Большасьць ня ведала нават месца правядзеньня зьезду. Суботнім ранкам ва Ўправу прыйшоў адзін факс ад Станіслава Шушкевіча. У нядзелю сярод дэпутатаў распаўсюджвалі іншы, нашмат даўжэйшы. Суботняе пасланьне было прасякнутае гэтак званым Шушкевічавым: *да згоды*. У нядзельным ён жа прышпіліў нядобрыя клішэ «Хартыі '97», наўпрост абвінавачваў камуністаў Калякіна і працавікоў Бухвостава ў здрадзе нацыянальным інтарэсам. Гэты ліст моцна паспрыяў распальваньню эмоцыяў на зьезьдзе-сходзе.

Але зьезд адбыўся зладжана й дысцыплінавана. Агучаныя новыя тэзісы, адбылося радыкальнае размежаваньне між сябрамі БНФ.

Што засталося па-за зьездам? Засталіся, напрыклад, адкрытыя лісты да Пазьняка кіраўніка Магілёўскай абласной арганізацыі БНФ Фёдарава, адкрыты ліст да сяброў БНФ «Адраджэньне» 19 кіраўнікоў абласных, раённых і гарадзкіх арганізацыяў Фронту, якія катэгарычна выступілі супраць гэтага «альтэрнатыўнага» зьезду і расколу БНФ, які ён нясе. Складалася ўражаньне, што арганізатары зьезду хочуць любой цаной узяць рэванш за першую сэсію зьезду БНФ, не зважаючы на наваколльную рэчаіснасьць і не шукаючы кампрамісаў.

Вячоркі ў залі не было. Не было й дэпутатаў ад «Маладога Фронту». Была старая гвардыя. Скажам шчыра, была тая частка Фронту, якая прадстаўляе маргіналізаваныя слаі грамадзтва. Гучалі на сходзе гучныя філіпікі на адрас «адшчапенцаў». Іншы раз па-расейску.

Неабходнасьць нацыянальна-вызваленчага патасу не выклікае сумневаў у нацыянальна сьведамай часткі беларусаў, як і маральнасьць палітыкі. Але ці ёсьць маральным зварот у лукашэнкаўскі Мінюст (які стаў на бок Пазьняка)?

Сярод бачных вынікаў зьезду — нечуваная кансалідацыя й адзінадушнасьць дэлегатаў, адабраных да ўдзелу на ім, нецярпімасьць да тых, хто спрабуе аспрэчыць рацыі Пазьняка, што моцна праявілася ў тым, як не давалі слова Баршчэўскаму. Гэта азначае, што за бортам такое арганізацыі непазьбежна застануцца тыя, хто быў гатовы весьці крытычны дыялёг.

Ідэйна акрэсьлілася палітычная сіла — Хрысьціянска-кансэрватыўная партыя БНФ (хрысьціянска-кансэрватыўных партыяў у Эўропе пакуль не было). Абноўленая палітычная арганізацыя здаецца маналітам. ХКПБНФ дэкляруе дзейсную падтрымку «дрэннаму, але легітымнаму» Вярхоўнаму Савету, ягонаму старшыню Сямёну Шарэцкаму, які «стаіць на беларускіх, нацыянальна-дэмакратычных пазыцыях». Сваю дзейнасьць партыя засяроздзіць на ідэі ўсталяваньня грамадзянства БНР, стварэньні Камітэтаў грамадзянаў БНР і органаў самакіраваньня, зборы подпісаў за адхіленьне Лукашэнкі ад улады, стварэньні грамадзянскага парлямэнту й часовага ўраду — але гэта імі самімі рабілася ўжо пяць гадоў і беспасьпяхова.

У перадзьездаўскім лісьце Пазьняк піша, што «ўсё змарнавалі канфармісты.... Нават загад аб арышце Лукашэнкі выдаць няма каму». Няўжо гэты загад будзе выданы старшынём Рады БНР? Ці прэм'ер-міністрам часовага ўраду, створанага ХКПБНФ?

Пазьняк кажа пра тое, што ён «яшчэ раз прапануе захаваць» адзінства Фронту, які ўжо ня ёсьць адзіным. У якасьці формулы для адзінства прапануецца мець адзінага старшыню Партыі і «Адраджэньня» (ясна каго), альбо сустаршынстваваць. Аднак ці трэба гэта цяпер будзе тым, хто застаўся за межамі Партыі? Пасьля гэтага заўчаснага на думку многіх сяброў БНФ зьезду, пасьля паўгадавога паралюшу дзейнасьці «нацыянальна-вызвольнага руху», пасьля дыскрэдытацыі ідэяў Фронту бязьдзейнасьцю й няздольнасьцю да кампрамісу, у гэтай часткі высьпявае жаданьне і насамрэч спыніць існаваньне «распалавіненага, дыскусійна-антаганістычнага Сойму» і стварыць новую сілу, больш адкрытую і шырокую, у альянсе зь іншымі палітычнымі сіламі.

Рубікон пяройдзены. Але вада на тое і вада, што ў яе двойчы ня ступіш. І 99-ы год ня 89-ы. Манаполіі на нацыянальную ідэю ўжо ніхто ня мае. Носьбіты нацыянальнай ідэі ўжо канкуруюць між сабой. Настрой на другой сэсіі VI зьезду БНФ «Адраджэньне» будзе залежаць хутчэй ад таго, як пройдзе 17 кастрычніка «Марш Свабоды». Супраць якога незразумела чаму выступіў Пазьняк, што ўвогуле выдае на капрызныя крыўды. Шкада, што два Франты разыходзяцца на маршы.

**Гары Куманецкі**

# МЕРКАВАНЬНІ АКТЫВІСТАЎ ФРОНТУ

**_На пытаньні нашага карэспандэнта напярэдадні зьезду адказалі вядомыя актывісты БНФ_**

**Яўген Шатохін, мастак, старшыня Пінскае арганізацыі БНФ:**

*— Вы згодныя з патрэбаю праводзіць гэты зьезд менавіта цяпер?*

— Для мяне ў гэтай ідэі прывабнае ўмацаваньне пазыцыі партыйнай часткі фронтаўцаў, бо партыйная частка — найбольш нацыянальна сьвядомая частка Фронту. Пераход Фронту ад антыкамуністычнай барацьбы да нацыянальнай быў балючым. Шмат хто так і не зразумеў нас. Яны ня ўбачылі шляху. У гэтых варунках, калі рэжым стаў жорсткім, Фронт мог болей існаваць як рух.

*— Ці будзеце вы ўдзельнічаць у зьезьдзе 30 кастрычніка?*

— Мы будзем удзельнічаць. Мы ж усе фронтаўцы. Мы можам супрацоўнічаць на новых падставах. «Новае адзінства», як кажа Пазьняк. Дзьве арганізацыі, дзьве часткі могуць супрацоўнічаць.

*— Каго Вы разумееце пад «каляніяльнай апазыцыяй»?*

— Нацыянальна-вызвольны рух пачаў пераплятацца з каляніяльнай апазыцыяй. У калёніях бываюць і каляніяльная адміністрацыя, і каляніяльная апазыцыя. У нас гэта тыя намэнклятуршчыкі, якіх адрынуў Лукашэнка. Цяпер яны пад нашым сьцягам равуць «Жыве Беларусь!», амаль усе перайшлі на беларускую мову, але пяць гадоў назад яны нас за гэта зьнішчалі, Пазьняка нігбілі. А зараз яны хочуць выкарыстаць Фронт пад гэтымі сьцягамі.

*— Вас не бянтэжыць тое, што Пазьняк гэтак доўга за мяжою?*

— Калі Ленін прыехаў у красавіку ў Расею, ён жа да таго ўсё жыцьцё пражыў у Швэйцарыях. Калісьці людзі гэта добра ведалі. Цяпер забыліся. Барані Бог, каб зь Зянонам тут што здарылася як з Захаранкам ці Ганчаром. Гэта было б непапраўна.

**Вячаслаў Сіўчык, в.а. адказнага сакратара Ўправы БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ:**

— Той зьезд, які мае адбыцца, гэта раскол з палітычнага пункту гледжаньня. Калі казаць пра праўны бок, то існуе Статут БНФ і там запісаны мэханізм правядзеньня розных партыйных мерапрыемстваў і згодна зь ім, зьезд зьбіраецца Соймам. З праўнага боку — гэта чыста падпольнае мерапрыемства. А з палітычнага боку — гэта яшчэ больш небясьпечна, бо ўпершыню расколваецца БНФ і беларускі вызвольны рух. Фактычна цяпер ствараецца нешта накшталт нацыянал-дэмакратычнай партыі, якую ў свой час стварыў Алесь Емельянаў, але ў ягонай ролі цяпер Зянон Пазьняк. Я глыбока перакананы, што больш за тысячу сяброў БНФ у іхныя шэрагі сьцягнуць немагчыма.

*— Ці будзеце вы супольна ўдзельнічаць у зьезьдзе 30 кастрычніка?*

— Я вельмі на гэта спадзяюся, бо іншага шляху дзеля кансалідацыі няма.

**Валеры Буйвал, мастацтвазнаўца, прэс-сакратар Партыі БНФ:**

— Усё, што адбываецца ў апошнія месяцы — гэта натуральны шлях, лягічны працэс. Праз 11 гадоў разьвіцьця шырокага народнага руху вызначылася розьніца інтарэсаў, спосабаў і мэтадаў барацьбы. На гэты момант зьезд паказаў, што Зянон Пазьняк застаецца прызнаным лідарам і мае сваіх прыхільнікаў аднадумцаў, шчырых і адданых сяброў і аднадумцаў ва ўсіх рэгіёнах нашае краіны.

*— Хто ў вас застанецца ў саюзьніках?*

Нашыя саюзнікі — тыя, хто цьвёрда стаіць на пазыцыях незалежнасьці беларускай дзяржавы й маральнасьці ў палітыцы. Гэта і АГП Багданкевіча і абедзьве сацыял-дэмакратычныя партыі. Сёньняшні ліст Шушкевіча — гэта разумны, прадуманы крок палітыка. Хадыка ж зь Вячоркам — гэта схалясты й сафісты. А беларускі розум да гэтага не прызвычаены.

**Гутарыў Сяргей Харэўскі**

# ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА І ПРАВЫ НАРОДУ

Сямён ШАРЭЦКІ

*Працяг са старонкі 1.*

Больш за тое, у краінах з таталітарнымі рэжымамі ўлады амаль заўжды імкнуцца выхаваць усіх людзей згодна з раней прыдуманым эталёнам, ня лічачыся са здольнасьцямі і схільнасьцямі апошніх. Справа даходзіць да таго, што дыктатарскія рэжымы хочуць, каб усе нават апранутыя былі ў аднолькавую вопратку.

Але гаворачы пра значэньне правоў і свабод чалавека для абароны чалавечай годнасьці людзей, трэба падкрэсьліць, што гэта тычыцца ня толькі краінаў з таталітарнымі рэжымамі, але і так званых дэмакратычных, дзе большасьць насельніцтва можа выказаць сваю волю з дапамогаю свабодных і справядлівых выбараў. Гэткая неабходнасьць абумоўленая тут тым, што ўлада большасьці таксама можа быць неапраўдана жорсткай у адносінах да пэўных асобаў. Менавіта большасьць афінян вынесла сьмяротны прысуд Сакрату. Адурманеная савецкай прапагандай большасьць сяброў такой, на першы погляд, дэмакратычнай установы як АН СССР асуджала праваахоўную дзейнасьць Андрэя Сахарава і патрабавала пазбаўленьня яго Нобэлеўскай прэміі. Усё гэта гаворыць аб тым, што неабмежаваная ўлада, у тым ліку і большасьці, зьяўляецца пагрозай для асобных людзей. І таму сапраўдная дэмакратыя патрабуе менавіта абмежаваньня ўлады і большасьці, калі тычыцца справы чалавечай годнасьці.

Разглядаючы разьвіцьцё канцэпцыі свабоды чалавека ў Эўропе, трэба падкрэсьліць, што забесьпячэньне свабоды было зьвязанае галоўным чынам з надзеямі на дзяржаву, якая, маўляў, і павінна даць шчасьце кожнаму. Менавіта кіруючыся гэтым прынцыпам, высунуў свой лёзунг і Кастусь Каліноўскі: «Не народ для ўраду, а ўрад для народу». І самае дзіўнае тое, што ў Эўропе потым зьявіліся кіраўнікі дзяржаваў і нават урады, якія верылі, што яны сапраўды ведаюць, як ашчасьлівіць сваіх падапечных. Як правіла, гэткія ўладары раней ці пазьней станавіліся дыктатарамі. Прыкладам зноў-такі можа быць рэжым Лукашэнкі, які абяцаў у час выбарчай кампаніі ашчасьлівіць усіх, а пасьля таго, як быў абраны прэзыдэнтам, стаў дыктатарам.

І зусім па-іншаму глядзяць на свабоду ў ЗША. Тут заўжды лічылі, што роля дзяржавы заключаецца толькі ў абароне людзей і іх маёмасьці, а ў астатнім яна не павінна перашкаджаць кожнаму ствараць для сябе шчасьце. Гэткія розныя падыходы да ролі дзяржавы Марэк Навіцкі тлумачыць тым, што да пачатку стварэньня правовых сыстэм у Эўропе ўжо не было



свабодных зямель і людзі працавалі галоўным чынам на чужых землях, а таму й шукалі ў дзяржаве абароны ад уціску. У ЗША, наадварот, дзяржава не павінна была перашкаджаць асвойваць новыя землі, а значыць і ствараць людзям самім для сябе шчасьце.

Хаця аб правах чалавека і трэба гаварыць у рэчышчы правоў саміх асоб, але паколькі апошнія абавязкова належаць да нейкіх грамадзкіх групаў, дык без наданьня правоў і свабод гэтым групам нельга выканаць патрабаваньні названых вышэй дакумэнтаў і ў адносінах правоў і свабод самога чалавека. І гэта перш за ўсё тычыцца нацыяў, бо безнацыянальных людзей не бывае. Кожны чалавек лічыць сябе прыналежным да якойсьці нацыі, і калі ён сумленны, дык і ганарыцца тым. Менавіта на гэтай падставе вядомы нямецкі філёзаф Артур Шапэнгаўэр лічыў, што самы распаўсюджаны від гонару — нацыянальны гонар.

Без нацыянальнага гонару народ ператвараецца ў натоўп людзей з рабскай псыхалёгіяй, якія заўжды будуць імкнуцца падпарадкаваць сабе суседнія дзяржавы. І калі гэта здарыцца, дык аб правах і свабодах прадстаўнікоў залежнай нацыі можна гаварыць толькі ў тэарэтычным пляне. На практыцы ж, каб трымаць у залежнасьці іншыя нацыі, паноўная нацыя ў дзяржаве ніколі не дазволіць прадстаўнікам першых залежных нацыяў мець роўныя правы з правамі сваіх прадстаўнікоў. Больш за тое, тытульныя нацыі амаль заўжды імкнуцца асымілёўваць залежныя ад іх народы. І гэта вельмі бачна было на адносінах панскай расейскай вярхушкі да беларусаў пасьля ўваходжаньня тэрыторыі апошніх у склад Расейскай імпэрыі. Ужо ў 1764 годзе ў наказе князю Вяземскаму Кацярына II давала загад, у якім гаварылася пра тое, што «трэба лягчэйшым спосабам прывесьці да таго, каб яны абруселі і перасталі глядзець як ваўкі ў лесе». Працягваючы палітыку сваёй бабкі, скіраваную на абрусеньне беларусаў, Мікалай I закрыў Віленскі ўнівэрсытэт, які быў адной з найвялікшых крыніц беларускай культуры, ліквідаваў унію і перадаў уніяцкія храмы праваслаўнай царкве, спыніў дзейнасьць Статуту Вялікага Княства Літоўскага і нават забараніў ужываньне слова «Беларусь». Палітыка па абрусеньні беларусаў была прадоўжаная наступнымі царамі, а таксама, пачынаючы з канца 20-х гадоў нашага стагодзьдзя, і савецкімі ўладамі, хаця апошнія і абвяшчалі роўныя правы для прадстаўнікоў усіх нацыяў.

Для таго, каб правы прадстаўнікоў залежных нацыяў сталі аднолькавымі з правамі прадстаўнікоў паноўнай нацыі, неабходна спачатку выраўняць іх права кожнай мець сваю незалежную дзяржаву, як гэта, скажам, было зроблена ў Чэхаславаччыне, якая цывілізаваным шляхам падзялілася на Чэхію і Славаччыну. Бо толькі пры наяўнасьці сваёй нацыянальнай дзяржавы можна забясьпечыць рацыянальныя адносіны паміж уладамі і людзьмі, толькі нацыянальная дзяржава зьяўляецца роднай маці, а ня мачыхай свайму народу, а таму аб'ектыўна зацікаўленая ва ўстанаўленьні шчыта (захаваньні правоў і свабод чалавека), які б прыкрываў кожнага яе грамадзяніна ад замаху чыноўнікаў на яго годнасьць. Прычым нацыянальная дзяржавы аб'ектыўна зацікаўленыя ў захаваньні правоў і свабод ня толькі тых прадстаўнікоў сваёй нацыі, якія жывуць на іх тэрыторыі і зьяўляюцца іх грамадзянамі, але й тых, якія пражываюць на тэрыторыі іншых дзяржаваў. Менавіта таму з адраджэньнем сваёй нацыянальнай дзяржавы Ізраіля становішча габрэяў значна палепшылася і ў іншых краінах. У іх зьявілася маці-абаронца. Менавіта таму тыя народы, якія яшчэ ня маюць сваёй нацыянальнай дзяржавы, імкнуцца яе мець. І зусім ненармальным трэба лічыць становішча, у якое сёньня ставіць беларускі народ былы яго прэзыдэнт А.Лукашэнка, імкнучыся аб'яднаць Рэспубліку Беларусь з Расейскай Фэдэрацыяй у адну дзяржаву. Многія з расейскіх палітыкаў у адносінах правоў беларусаў засталіся на ўзроўні кацярынінскіх і мікалаеўскіх часоў. Беларусаў яны нават ня лічаць за нацыю. У некаторых зь іх нават стала звычайным гаварыць: «Усе мы рускія». Ім і ў галаву не прыходзіць, што гэтым яны зьневажаюць дзесяцімільённы народ, які, паводле ўсіх міжнародных пагадненьняў, мае права мець і мае сваю дзяржаву. І калі сёньня паўстала пагроза перад беларускім народам страціць гэтае права, на абарону яго павінны падняцца беларусы ўсяго сьвету.

На жаль, пытаньні ўзаемазалежнасьці правоў і свабод чалавека і правоў народу (нацыі) распрацаваныя навукай пакуль што недастаткова. Правы і свабоды чалавека разглядаюцца, часьцей за ўсё, у адрыве ад правоў нацыяў на самавызначэньне. Пацьверджаньнем таму зьяўляецца выказваньне таго ж М.Навіцкага, які падкрэсьлівае, што «ў межах правоў чалавека нельга гаварыць аб правах меншасьцяў». Апошняе — гэта, маўляў, ужо «мова і прадмет палітыкі», а «ў рэчышчы правоў чалавека нельга гаварыць аб правах асобаў, якія належаць да нацыянальных меншасьцяў». Больш таго, спадар Навіцкі лічыць нават адступленьнем ад гэтага правіла тое, што ў шасьцідзясятых гадах у абодвух ААНаўскіх Міжнародных пактах аб правах чалавека зроблены запіс у іх першых артыкулах аб правах нацыяў (народаў) на самавызначэньне.

І сёньня мы бачым, як многія народы дамагаюцца і нават вядуць барацьбу за ажыцьцяўленьне гэтага права аж да права стварэньня сваёй дзяржавы, без чаго, як ужо было сказана, не працуюць або працуюць ва ўрэзаным выглядзе правы чавлаека. Прычым апошняе тычыцца ня толькі прыгнечаных нацыяў, але і тых, якія спрабуюць насільнымі мэтадамі трымаць у падпарадкаваньні іншыя народы. І тут К.Маркс і Ф.Энгельс мелі рацыю, калі падкрэсьлілі, што «ня можа быць свабодным народ, які прыгнечвае іншыя народы. Сіла, патрэбная яму для падаўленьня другога народу, урэшце заўжды абарочваецца супраць яго самога».

*Вільня, 24 верасьня 1999 году*

# ІНФАРМАЦЫЯ ПРА ЗАМАХ НА ШАРЭЦКАГА

## *Прадстаўнік літоўскага злачыннага сьвету распавёў журналістам, што яму прапанавалі забіць в.а.кіраўніка беларускай дзяржавы*

Сэнсацыйны матар'ял «Жыцьцё Сямёна Шарэцкага ў небясьпецы» зьявіўся ў апошнім нумары літоўскага ілюстраванага штотыднёвіку «Вяйдас». На журналістаў «Вяйдаса» выйшаў прафэсійны снайпэр па мянушцы «Манах», зьвязаны зь літоўскім злачынным сьветам, і распавёў такую гісторыю:

*«24 жніўня сёлета са мною захацелі сустрэцца нейкія невядомыя мне людзі. Яны папрасілі, каб я за 100 тысяч даляраў застрэліў Сямёна Шарэцкага. 50 тысяч даляраў яны паабяцалі заплаціць адразу, а рэшту — як выканаю заданьне. Яны мелі з сабою пляны памяшканьня, у якім жыве й працуе Шарэцкі. Мелі таксама і падрабязныя зьвесткі пра тое, калі ён выходзіць з дому, калі прыходзіць, у каго бывае. На ламаным літоўскай мове з расейскім акцэнтам пачалі пераконваць, што большых грошай я ў Літве не атрымаю, а калі я не пагаджуся, знойдуцца іншыя, якія гэта зробяць. Калі я катэгарычна адмовіўся, яны ад'ехалі».*

Чаму «Манах» распавёў гэта? Паводле ягоных словаў, каб забясьпечыць сабе алібі. *«Калі Шарэцкага заб'юць, я буду спакойны. Я цяпер упэўнены, што калі б здарылася гэткае няшчасьце, паліцыя не прыляціць да мяне як да першага падазраванага. Пра ўсё я мог бы расказаць і самім спэцслужбам, але я ведаю, як усё адбываецца ў Літве — адразу пасадзяць у Лукішкі, а тады даводзь, што невінаваты. Дый пачалі б корпацца ў маёй біяграфіі і мінуўшчыне, а я б гэтага не хацеў».*

Тыднёвік «Вяйдас» паінфармаваў Дэпартамэнт аховы кіраўнічых асобаў, што ў Літве ёсьць людзі, зацікаўленыя ў забойстве Сямёна Шарэцкага. Адразу пасьля паведамленьня ахова лідэра беларускай апазыцыі была ўзмоцненая — вакол Шарэцкага пабольшала ахоўнікаў. Па нашых зьвестках, апроч двух целаахоўнікаў, за бясьпекай Шарэцкага цяпер сочыць таксама кола далёкага назіраньня. Сам Шарэцкі (які, дарэчы, ні ад каго не хаваецца) цьвердзіць, што за апошнія два месяцы ў Літве яму ніхто не пагражаў і што тут ён адчувае сябе свабодна і бясьпечна.

Дырэктар Дэпартамэнту аховы кіраўнічых асобаў Раймундас Кайрыс патлумачыў, што дагэтуль яны ня маюць інфармацыі пра людзей, якія зацікаўленыя ў забойстве Шарэцкага. Дырэктар Дэпартамэнту дзяржаўнай бясьпекі Мячыс Лаўрынкус дадаў, што спэцслужбы пільна вывучаюць атрыманую імі інфармацыю пра магчымыя замахі на палітычных дзеячоў, аднак найчасьцей такая інфармацыя ня мае пад сабой рэальных падставаў.

Пасьля таго як з палітычнай мапы Беларусі прыбралі Карпенку, Захаранку й Ганчара, здаецца, можна чакаць усяго. Калі тое, што распавёў «Вяйдас», праўда, дык хто стаіць за гэтым? Ці то славутая «адна зь беларускіх спэцслужбаў», ці то нейкая таямнічая структура, якую ніхто ня ведае, але якая наносіць жорсткія і бяз пудла, у стылі расейскіх крымінальнікаў, удары па самых сымбалічных лідэрах беларускага грамадзтва.

Калі ж артыкул, надрукаваны 23 верасьня ў сур'ёзным літоўскім выданьні, фікцыя, дык гэта красамоўная фікцыя. Яна сьведчыць, у які хаос ператварылася беларуская рэальнасьць за апошнія пяць гадоў.

**Барыс Тумар**

# ДЖЫН, ЯКОГА КУЧМА ВЫПУСЬЦІЎ З ПЛЯШКІ

15 кандыдатаў возьмуць удзел у прэзыдэнцкіх выбарах, якія адбудуцца ва Ўкраіне ў кастрычніку. Але толькі 5 зь іх маюць больш-менш рэальныя шанцы на перамогу. Гэта Леанід Кучма, былы сьпікер парлямэнту Аляксандар Мароз, колішні прэм'ер Яўген Марчук і лідэр камуністаў Пятро Сіманенка. Да гэтай пяцёркі нечакана дадалася, абышоўшы й цяперашняга сьпікера Аляксандра Ткачэнку, і кандыдатаў ад абодвух крылаў расколатага руху, былых міністраў Генадзя Ўдавенку і Юр'я Кастэнку адзіная сярод кандыдатаў жанчына — лідэр Прагрэсіўнай сацыялістычнай партыі Ўкраіны Наталя Вітрэнка.

Да нядаўна да «нашай Наташы» (так называюць Вітрэнку экзальтаваныя прыхільнікі) ня ставіліся сур'ёзна. Апаненты лічылі яе крэатурай Банковай (на гэтай вуліцы ў Кіеве ў будынку былога ЦК разьмясьцілася Адміністрацыя прэзыдэнта), якую раскручваюць з адной мэтай — унесьці раскол у лягер левых.

Сапраўды, нягледзячы на ўсю ўльтрарэвалюцыйную рыторыку, Вітрэнка да нядаўняга часу задавала болей клопатаў прававерному галоўнаму камуністу П.Сіманенку ці рэспэктабельнаму лідэру сацыялістаў А.Марозу, чым прэзыдэнту Кучму. Калег па левым руху Вітрэнка менавала ня йнакш як пераараджэнцамі й наймітамі буржуазіі. І аднячасова невялічкая (усяго 14 чалавек) фракцыя Вітрэнкі ў парлямэнце часта аказвалася той сілай, якая тарпэдавала антыпрэзыдэнцкія ды антыўрадавыя ініцыятывы апазыцыі.

Зласьліўцы пры гэтым не праміналі нагоды пакпіць, што «наша Наташа» акупавала літаральна ўсе каналы дзяржаўнага тэлебачаньня, тады як іншых лідэраў апазыцыі нават не падпускалі да экрану. Жартавалі і пра першыя паведамленьні пра высокія перадвыбарчыя рэйтынгі Вітрэнкі — маўляў, на Банковай рэалізуюць расейскі сцэнар, наўмысна раскручваючы самага адыёзнага з кандыдатаў, каб у суперніцтве зь ёй гарантавана перамог Кучма.

Але з пэўнага часу ўсё зьмянілася. Вітрэнка ўжо не мігціць на экранах (Банковая не адмовілася ад расейскага сцэнару, але ў якасьці спарынг-партнэра для другога туру абралі шэранькага й нехарызматычнага Сіманенку). Больш таго, празарлівыя людзі з прэзыдэнцкага акружэньня пачынаюць усё часьцей нагадваць пра памылку Кебіча, які на процівагу Шушкевічу ўзяўся раскручваць невядомага папуліста Лукашэнку.

Але джына ўжо выпусьцілі з пляшкі. Рэйтынг Вітрэнкі сапраўды высокі й ня думае падаць. І разгубленыя аналітыкі пачынаюць думаць: а што, праўда, будзе, калі...


Наталя Вітрэнка

Аднак нешта прадказаць зусім няпроста. З аднаго боку, Наталя Вітрэнка мае за плячыма пасьпяховую кар'еру навукоўца і ўнівэрсытэцкага выкладчыка і пры кожнай нагодзе выстаўляецца сваёй ступеняй доктара эканамічных навук. Але адначасова яна — прававерная камуністка паводле пераканаНьня, і ніколі гэтага не хавала. І пры гэтым разьведзеная, трох дзяцей нарадзіла ад двух розных мужоў, а цяпер нязьменна зьяўляецца паўсюль у суправаджэньні партыйнага калегі В.Марчанкі (пры гэтым у камэнтарах у прэсе падкрэсьліваючы выключна сяброўскія дачыненьні зь ім і ягонай жонкай). Ёй 48 гадоў, і выгляду яна надае мала ўвагі: за гады палітыкаваньня яна страціла рэшткі зграбнасьці, ніякім стылем яе гарнітуры й сукенкі не вылучаюцца. Гэта асабліва заўважна на фоне супэрвытанчанай (у тым ліку і ідэалягічнай) візаві Вітрэнкі ў парлямэнце, 37-гадовай старшыні бюджэтнага камітэту Юлі Цімашэнкі.

Са свайго публічнага жыцьця Вітрэнка робіць сьвядомы гепэнінг, наўмысна нарываючыся на скандалы. Не пералічыць, колькі абразьлівых ярлыкоў наляпіла яна на свайго былога начальніка ў партыі Мароза (за што ён некалі назваў яе жанчынаю цяжкіх паводзінаў). Уся Ўкраіна назірала, як яна проста перад тэлекамэрамі разам з Марчанкам біла немаладога дэпутата ад правіцы Паўла Моўчана, лідэра інтэлігенцкай «Просвіти», які наважыўся на рызыкоўную фразу што да асабістага жыцьця «прагрэсіўнай сацыялісткі». Нарэшце, Вітрэнцы даспадобы тое, як журналісты абсмоктваюць факт яе абраньня ў парлямэнт ад Канатопскае акругі (ва ўкраінскага клясыка Квіткі-Аснаўяненкі ёсьць славутая «Канатопская ведзьма»).

Перадвыбарчая праграма Вітрэнкі мала чым адрозьніваецца ад іншых левых праграмаў: барацьба з карупцыяй, саюз з Расеяй і Беларусяй, наданьне расейскай мове дзяржаўнага статусу. Але сацыялягічныя апытаньні сьведчаць, што за Вітрэнку будуць галасаваць людзі з рознымі поглядамі, бо людзей прыцягваюць ня пункты праграмы, а простыя й даходлівыя лёзунгі: «Пэнсіянэраў Краўчука, Плюшча й Кучму пасадзім у рэзэрвацыю, дзе яны будуць жыць на звычайную пэнсію ў 49 грывень», «Рэфарматараў Пінзэніка і Юшчанку адправім ва ўранавыя шахты», «Адразу пасьля выбараў закрыем усе аэрапорты, каб ні адзін хапуга ня ўцёк».

Сьвядома ці несьвядома, паводле парадаў іміджмэйкераў ці з уласнай ініцыятывы, але Вітрэнка кажа тое, што хочуць чуць змучаныя галечай людзі.

Дык што будзе, калі да ўлады прыйдзе Вітрэнка (акадэмічны Інстытут сацыялёгіі прадказвае менавіта такі вынік)?

Першы сцэнар такі (ва Ўкраіне яго называюць мяшкоўскім паводле імя былога крымскага прэзыдэнта). Эліты не ўспрымаюць прэзыдэнта Вітрэнку. Вакол яе ўтвараецца вакуум. Яе распараджэньні сабатуюць. Усе фракцыі парлямэнту аб'ядноўваюцца і або зьяўляюцца папраўкі, якія зводзяць на нішто ролю прэзыдэнта, або Вітрэнцы абвяшчаюць імпічмэнт.

Другі магчымы сцэнар — «лукашэнкаўскі». Гуляючы на разьбежнасьцях інтарэсаў уладных клянаў, Вітрэнка паступова ўводзіць рэжым асабістай улады, перасьледуе апазыцыю, зачыняе газэты і пачынае будаваць славянскі саюз з Лукашэнкам і з Расеяй. Гэты варыянт нельга скідаць з рахункаў ужо таму, што партыю Вітрэнкі фінансуюць зусім не пэнсіянэры, а немалыя ўліваньні рэальных постацяў сёньняшняга істэблішмэнту. Адзін зь іх, лідэр Лібэральнай партыі, нядаўна прызначаны губэрнатарам Сумшчыны В.Шчэрбань публічна прызнаўся, што фінансаваў правядзеньне зьезду ПСПУ. Якую цану прыйдзецца Ўкраіне заплаціць за такія крокі ўкраінскіх алігархаў?

Відавочна, будучыя гісторыкі далучаць зьяўленьне фэномэну Вітрэнкі-палітыка да сьпісу заслуг палітыка-Кучмы, які пляшку з джынам адкаркоўваў. Але нам ад гэтага лягчэй ня будзе.

**Максім Стрыха — з Кіева**



## Нашых не запрашалі

У мінулы чацьвер у Віленскім унівэрсытэце была падпісаная дэклярацыя пра ўтварэньне Калегіюму Сьцяпана Батуры. Гэты Калегіюм стане супольнай сеткаю ўнівэрсытэтаў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы. На ўрачыстае падпісаньне акту прыехалі рэктары з 9 унівэрсытэтаў зь Літвы, Польшчы, Чэхіі, Славаччыны, Вугоршчыны, Расеі. Ля вытокаў гэтага праекту стаяў Ежы Гедройц, які бачыў ва ўтварэньні адзінай адукацыйнай прасторы ня толькі акадэмічную карысьць. Ён шматкроць казаў, што марыць пра супольную будучыню народаў гэтае часткі Эўропы, як супольнаю была іх мінуўшчына. Невыпадкова для падпісаньня гэтага дакумэнту быў абраны Віленскі ўнівэрсытэт, закладзены 420 гадоў таму самім Сьцяпанам Батурам, вугорскім князем, які быў абраны валадаром нашай старажытнай дзяржавы. Беларускія ўнівэрсытэты да ўдзелу не запрашаліся.

## Вясковы турызм на Віленшчыне

Днямі ўбачыла сьвет новая кніга, прысьвечаная цікавосткам Віленшчыны — «Atrakcje architektoniczne na turystycznych szlakach Wileńszczyzny», якая была падрыхтаваная студэнтамі Вышэйшай Сельскагаспадарчай Школы ў Белай Вацы, што пад Вільняю, пад кіраўніцтвам выкладчыкаў сп. Пшыходня й Бесальскага. Яе прызначэньне — быць турыстычным даведнікам для тых, каго цікавіць вясковы турызм, шляхі якога зьбягаюць ад тлумных гарадоў ды шумных дарог. У кнізе пішацца пра краявіды, прыродныя, археалягічныя ды архітэктурныя помнікі, да гэтае пары малавядомыя шырэйшаму колу людзей. У прадмове ўкладальнікі напісалі: «Віленшчына — гэта краіна мараў для турыста. У любую пару году тут дастаткова не спатыканых раней уражаньняў і эстэтычных перажываньняў. Тым, хто падарожнічае, здаецца ўвесь час, што яны маюць дачыненьне са сьветам, узятым проста з эпічных краявідаў Фэрдынанда Рушчыца». Што праўда, Рушчыц, багата маляваў на Віленшчыне, толькі далей на поўдзень: на Смаргоншчыне, Ашмяншчыне ды Валожыншчыне.

## Гарэлку вязуць каністрамі



Найбольшай папулярнасьцю ў Вільні ды ваколіцах карыстаецца беларуская гарэлка «Панскі дом». Яе вырабляюць на Шчучыншчыне, у калгасе «Мажэйкава». Сёлета гэты напой атрымаў на міжнароднай выставе ў Сочы залаты мэдаль. Апроч таго, «Мажэйкава» тамака ж атрымала мэдалі за яшчэ два моцныя напоі. Гэткім чынам калгас абышоў нават папулярную марку менскага «Крышталю», пра што напісалі і ў літоўскай прэсе, са зьдзіўленьнем адзначаючы, што літоўскія прадпрыемствы выглядаюць нашмат сьціплей.

Ня дзіва, што абсалютная большасьць кантрабандный гарэлкі ў Літве — гэты самы «Панскі дом». Камэндант паліцыі падвіленскіх Салечнікаў Ян Мацкевіч прывёў зьвесткі, што толькі за верасень было канфіскавана 1272 бутэлькі беларускай гарэлкі. Але гэта мізэр ад таго, што ўсё ж трапляе ў Літву. Рэкорд на мінулым тыдні, напрыклад, паставіў жыхар Эйшышак, які даўмеўся перавезьці цераз мяжу фурманку, наладаваную 1047 пляшкамі. А ў мінулы аўторак ужо жыхар Берасьця здолеў перавезьці ў прычэпе МАЗу тры тоны гарэлкі, перaлітай у адмысловыя каністры!

**Ліцьвін**

# ДА АБМЕЖАВАНЬНЯ СУВЭРЭНІТЭТУ

На сэсіі Генэральнай асамблеі ААН прайшлі дэбаты пра тое, ці можна абмяжоўваць дзяржаўны сувэрэнітэт у выпадках, калі дзяржава груба парушае правы людзей або патурае злачынствам супраць чалавецтва. Гэтую тэму ўзьняў Кофі Анан. На ягоную думку, абарона цывільных ад гвалту важнейшая за дзяржаўны сувэрэнітэт. «Ад С'ера-Леонэ да Судану, ад Анголы да Балканаў, ад Камбоджы да Аўганістану ёсьць шмат народаў, якім патрэбнае ня простае спачуваньне міжнароднай супольнасьці, а болей». Сп.Анан адзначыў, што традыцыйнае разуменьне дзяржаўнага сувэрэнітэту «больш не адпавядае імкненьням народаў да сваіх асноўных вольнасьцяў». Анан назваў «трагічным» тое, што міжнародная супольнасьць ці зусім ня ўмешваецца ў крызы кшталту югаслаўскай, ці ўмешваецца запозна. Найвялікшым выклікам XXI ст., на ягоныя словы, зьяўляецца дасягненьне адзінства між аб'яднанымі нацыямі ў справе абароны правоў чалавека.

У прынцыпе, Анан ужо казаў нешта такое ў красавіку перад камісіяй ААН па правах чалавека, але менавіта цяпер у адказ на ягоны выступ узьнялася хваля пратэстаў. Пратэставалі збольшага тыя краіны, лідэраў якіх у парушэньні гэтых правоў ня раз зьвінавачвалі. Скажам, прэзыдэнт Альжыру цьвердзіў, што сувэрэнітэт дзяржаваў «стаіць па-над правам ААН на ўмяшаньне. Сувэрэнітэт — гэта наша апошняя магчымасьць абараніцца ад правілаў жыцьця няроўнага сьвету». Прэзыдэнт Калюмбіі ўвогуле назваў недапушчальным любое ўмяшаньне ва «ўнутраныя справы» сувэрэннай дзяржавы.

Сьвет за апошні год займеў практычны досьвед такіх умяшаньняў цераз Косава (без мандату ААН) і Тымор (з мандатам). Гэтыя прэцэдэнты выклікалі ў дзе-каго трывогу, асабліва ў тых краінаў Азіі, якія зразумелі, што могуць стаць наступнымі. Праўда, ніхто пакуль дакладна ня вызначыў, пры якіх менавіта парушэньнях правоў чалавека дапускаецца ўмяшаньне.

Што да новапаўсталых дзяржаваў, дык абмежаваньне сувэрэнітэту ў пытаньнях правоў чалавека толькі дапаможа ва ўмацаваньні іхнай нацыянальнай незалежнасьці.

**Сяргей Радштэйн**

*Тыдзень таму ў Капцёве каля Друскенік, непадалёк ад новай беларуска-літоўскай мяжы, адкрывалі помнік Эміліі Плятэр. Сабралася мноства народу. Прамоўцы на зьмену гаварылі то пра нятускны ідэал польскай кабеты, то пра літоўскую Жанну д'Арк. Не было толькі прадстаўнікоў ад Беларусі — ані афіцыйных, ані самавольных. Між тым, адважная Эмілія была, як гэта ні дзіўна, беларускай фальклярысткай, зьбірала нашыя песьні і сама пісала вершы па-беларуску, а калі прыйшоў час, калі па ўсім краі запалала антырасейскае вызвольнае паўстаньне, узяла ў рукі шаблю. Змагалася, пакуль не была сьмяротна параненая ў бітве пад Шчорсамі. Сябры спрабавалі ўратаваць яе, вывезьці ў Варшаву, але па дарозе яна памерла. У тым самым Капцёве, дзе тыдзень таму ёй паставілі помнік.*

# САМАЕДЗТВА ГІСТОРЫКАЎ

Гісторыя гэтая адбывалася ў 1831 годзе, Эмілія мела 25 гадоў і чын палкоўніка. У Беларусі яе напаткала ўсенароднае забыцьцё, прычым адносна нядаўняе. Бо калі савецкая яшчэ Энцыклапэдыя Літаратуры і Мастацтва піша пра Эмілію Плятэр як пра беларускую фальклярыстку, дык у даведніку «Беларусь» часоў незалежнасьці ня згадваецца нават яе імя. Затое ў Літве і Польшчы пра 25-гадовага палкоўніка ведае кожны вучань. Напэўна, бацькі ставяць герaічную дзяўчыну ў прыклад сваім чадам. У нас у такім выпадку выкарыстоўваецца звычайна прыклад нейкага Гайдара, які ў 16 гадоў камандаваў палком. Праўда, ніякага дачыненьня да Беларусі той савецкі Гайдар ня мае. Хіба што быў кантужаны каля мястэчка Ўлы ў баях ужо з польскімі войскамі. А параўнаньне гэтых двух прыкладаў прыводзіць да наступнае высновы. Варта нейкай зьяве толькі пакінуць межы нашай краіны, як шэрая беларуская гліна адразу ператвараецца ў золата чужое гісторыі. Фігуральна кажучы, калі б адважная Эмілія не дацягнула да таго Капцёва і памерла ад ран раней, на нашай тэрыторыі, не было б ані помніка, ані тысячнага сходу ў яе гонар.

Куды ўвогуле дзяюцца героі, у якой расколіне зьнікаюць славутыя імёны і прыклады для пераймањня? Мой асабісты досьвед у гэтай справе прыводзіць да мала суцешных вынікаў. За апошнія дзесяць гадоў у вывучэньні мінуўшчыны і яе папулярызацыі мы, беларусы, больш страчвалі, чым здабывалі. Пра што сьведчыць і згаданы прыклад з Эміліяй Плятэр. Час грунтоўных працаў па археалёгіі або крыніцазнаўстве мінуў яшчэ ў савецкую пару. Ды й многія плённыя міты грамадзкай сьвядомасьці былі абвергнутыя і забытыя. Варта згадаць хоць бы культ Каліноўскага, які стварaўся дзякуючы працам Генадзя Кісялёва і творам Уладзімера Караткевіча. Пазьней зьявіліся абвяргальныя опусы то пра Каліноўскага-тэрарыста, то пра паляка-каталіка, то пра абмежаванага сацыяліста. Чаму так адбывалася? Ёсьць, натуральна, прычыны палітычнага характару, але сёньня мы зьвернемся да ўнутраных праблемаў беларускай гістарыяграфіі.

Досьвед нашых суседзяў, якія дасягнулі посьпехаў і ў дасьледаваньнях і ў навучаньні, падказвае, што нельга зьмешваць навуковае і асьветнае. Гісторыкі працуюць у сваіх закрытых лябараторыях, а публіка любуецца помнікамі і яркімі жыцьцярысамі сваіх нацыянальных герояў, імёны і ўчынкі якіх дзеці завучваюць у школах.

Вось паказальны літоўскі прыклад. Пакуль нашыя дасьледчыкі шукалі кансэнсусу зь іхнымі на розных сустрэчах і канфэрэнцыях, патрабуючы прызнаць беларускую мову дзяржаўнай у Вялікім Княстве Літоўскім, іхныя пісалі сваё. Урэшце ў іх выйшлі дзясяткі кніг, а ў нас утварылася паўза, бо, не расставіўшы кропкі над «і» ў літоўскай гісторыі, яны не маглі прыступіцца да свайго. Цяпер ясна, хто выйграў, а хто прайграў.

Літоўцы вельмі ўдала выкарыстоўваюць распадзел на навуку і асьвету, дасягаючы выразных ідэалягічных мэтаў. Яны паказваюць веліч літоўскае гісторыі і аднaчасова прытарноўваюць яе да сучасных, знаёмых рэаліяў. Напрыклад, у пытаньні старажытнай сталіцы існуе дуалізм — наш Наваградак і іхная паўмітычная Кярнава. Навука займаецца Наваградкам, але калі дзіця ў школе назаве першай сталіцай Кярнаву, усё будзе ў парадку. У выніку ствараецца ўражаньне, што Літва была некалі ад мора да мора, а што да канкрэтыкі, дык уся яна — пад бокам, а не ў малазнаёмай Беларусі, дзе ідэнтыфікаваць на месцы што-небудзь з сучаснай Літвой цяжка.

Або той самы прыклад з князем Яўнутам, які паводле беларускай вэрсіі ўцёк у Маскву, вярнуўся праваслаўным Іванам і атрымаў Заслаўе. Паводле літоўскіх падручнікаў, ён уцёк у Польшчу, а па вяртаньні асеў у Троках. Усё адбывалася пад бокам.

Дадайце да гэтага, што ў Беларусі пра таго Яўнута паспалітыя чалавек і ня чуў ніколі, а ў Літве гэта агульнавядомы гістарычны пэрсанаж.

Для паўнаты карціны згадаю яшчэ і польскі варыянт папулярнай гісторыі. Напрыклад, эпізод пра 17 верасьня, якому сёлета споўнілася 60 гадоў.

З гэтай нагоды варшаўская «Polityka» напісала наступнае:

«17 верасьня 1939 г. Чырвоная армія не ўступала на польскую тэрыторыю як нэўтральная сіла, бо зараз жа пачаліся расстрэлы і дэпартацыя цэлых масаў палякаў. Расейцаў шакуе параўнаньне іх зь нямецкімі агрэсарамі. Сучаснае пакаленьне немцаў таксама ня мае нічога агульнага з гітлераўскімі злачынствамі, але прынамсі яны ўрачыста і афіцыйна перапрасілі ад імя Нямеччыны за тыя злачынствы. Расейскія ўлады ня толькі ня хочуць згадваць пра ніякія кампэнсацыі польскім ахвярам, але нават шкадуюць палякам тых сымбалічных словаў праўды. Асобныя высакародныя расейцы нешта ведаюць пра польскія крыўды, большасьць жа нічога пра іх і ня чула».

Так адбываецца таму, што ў расейскай гістарычнай міталёгіі гэта быў «вызваленчы паход». Вызвалялі нас, беларусаў, дакладней заходніх беларусаў ад польскіх паноў. І тыя масы рэпрэсаваных, пра якія піша «Polityka» — гэта найперш тыя самыя вызваленыя беларусы.

Афіцыйная трактоўка беларускай гістарыяграфіі кажа пра тыя падзеі як пра ўзьяднаньне дзьвюх частак аднаго народа. Гэта безумоўна плённы для нацыятворчага працэсу міт. Навуковая ж вэрсія цалкам зь ім разыходзіцца. Паколькі гэтыя падзеі задумляліся і твaрыліся не беларусамі, дык гэта была самыя, дык толькі хіба ў архівах. І ўжо пэўна, што не ў беларускіх. Застаецца альбо пераўдакладняць фактуру, якую вывучылі папярэднікі, альбо пісаць для публікі, імкнучыся захапіць яе тым, што цікава самому.

Зрэшты, гэта тычыцца ня толькі гісторыі архітэктуры. Мая колішняя настаўніца, прафэсарка Юр'ева зь Пецярбургу, прачытаўшы маю першую працу пра партрэт Міхала Казімера Агінскага XVIII ст., сказала: «Бяз нас, мастацтвазнаўцаў, усе творы мала чаго вартыя. І толькі мы можам пераконваць у іх вартасьцях людзей. Напрыклад, растлумачыць геніяльнасьць Малевічавых «Квадратаў», альбо вашых жа сармацкіх партрэтаў, палова зь якіх, на думку нашых сучасьнікаў — прымітыў. Калі твору няма, ніякае апісальніцтва не ўратуе. Напішыце — гэта геніяльна! І скажыце, чым. Напрыклад — больш такога ніхто не зрабіў! І ваш чытач сам кінецца ў музэй, каб пабачыць твор на ўласныя вочы!»

Так нараджаюцца міты, і гэта ўсеагульны закон. Вось ужо прышчапіўся міт пра ўнікальнасьць беларускіх абарончых цэркваў, хоць падобныя існуюць амаль ва ўсёй Эўропе. Альбо — міты пра ўнікальнасьць беларускай барочнай разьбы, кахлянага мастацтва, драўлянага дойлідзтва... Калі прыгожы міт апаноўвае публікай, ствараецца нацыя. Прынамсі, у Літве яна й была створаная такім чынам — высілкамі такіх гісторыкаў, як мой прыяцель зь Віленскага ўнівэрсытэту.

**Сяргей Харэўскі**



Фота Міхала Баразны.

# КЕЛЬЦКАЯ ФІБУЛА

«Паглядзі, вось яна, сапраўдная кельцкая фібула! Знайшоў летась на Гарадзеншчыне. Гэта доказ. Гэта табе не языком мянціць». Мой субяседнік, малады асьпірант у тоўстых акулярах, ахайна загортваў свой скарб у поліэтыленавы пакет. «Усе кажуць: «былі кельты!» Але апроч курганоў ды селішчаў, нейкіх там аскепкаў гліняных, не было доказу! Цяпер будзе».– «Цікава, — кажу я, — дык, калі разабрацца, мы самыя што ні ёсьць кельты? Ну хіба яшчэ крыху балты...» – «Слухай! Як мне абрыдлі гэтыя беларускія фантазіі! — раптам абурыўся субяседнік, — Усе гэтыя тэорыі. Хай спачатку давядуць. Хай не прыдумляюць. Хай мне дадуць патрымаць, як гэтую жалезную фібулу». – «А калі ня знойдуць? — спытаюся я. — Калі спарахнела... Пра што тады казаць?»

Я прыгадаў тую размову колькі часу пазьней, пад час гутаркі зь іншым навукоўцам, які загадвае катэдрай аграрнай гісторыі ў Віленскім ўнівэрсытэце. «Ведаеш, — казаў ён, — калі зайшоў у Парыжы ў спэцыяльную кнігарню, дык аслупянеў. Там кніг па маёй тэме — сотні. Каб усё прачытаць, ня хопіць жыцьця. А з другога боку, амаль усё, што можна ведаць па гісторыі сельскай гаспадаркі Літвы, я ведаю. Наша краіна маленькая». – «І што ж будзеш рабіць далей?» – спытаў я. – «Як што? Выдумляць міты! Каб было цікава студэнтам».

Падобная дылема ўвесь час паўстае й перада мною, калі вывучаю гісторыю беларускай архітэктуры. Зразумела, што помнікаў больш стаць ня можа. Новыя адкрыцьці калі й магчы-



Фота Міхала Баразны.

# НАКАНАВАНЫ КАНФЛІКТ:

**— Генадзь, чаму беларускія гісторыкі ствараюць і абвяргаюць гістарычныя міты?**

— Сапраўды, паміж праўдамі гісторыка, з аднаго боку, і публікі, з другога, няма суладзьдзя. Ды й ня можа быць, бо ім наканаваны канфлікт. Для вучонага ісьціна — гэта плён пошуку, прынамсі, так у імпэратыве, гэта працэдура навуковага пазнаньня і рэвізіі, крытыкі, крыніцаў. А для публікі патрэбная проста аптымістычная вэрсія мінулага. Гэта архетып пэўных штампаў, гэта сымбаль, гэта тое, што бярэцца на веру і застаецца ў памяці. А памяць народу, як ведаем, інэртная і наскрозь міталягізаваная. Вага ж міту непараўнальна большая за вагу навукі. Я маю на ўвазе ўплыў на сьвядомасьць. І таму гісторыкі, нават найлепшыя прафэсіяналы, часам бяруцца за стварэньне мітаў. Тут ці не клясычны прыклад — Мітрафан Даўнар-Запольскі. Ён быў гісторыкам ці ня самага высокага ўзроўню, калі браць нават на цяперашні час. Чалавек, які па праве завецца заснавальнікам навуковай беларускай гістарыяграфіі, ён у 1918 годзе бярэцца на замову Рады БНР пісаць «Асновы дзяржаўнасьці Беларусі» — брашурку, якая стала маленечкай сынтэзай гісторыі Беларусі, але напісаная настолькі спрошчана, што калі яе чытаеш, дзівісься, ці сапраўды гэта пісаў прафэсіянал такога ўзроўню, як Даўнар-Запольскі.

Беларускія гісторыкі займаюцца асьветніцтвам, бо бракуе тых, хто б гэта мог рабіць бязь іх. У будучыні гэтыя дзьве функцыі — гістарычнага дасьледаваньня і гістарычнага асьветніцтва — мусяць быць, натуральна ж, разьведзеныя, бо кожны

вецкая акупацыя акупаваных перад тым Польшчай беларускіх земляў.

Гэты прыклад яскрава дэманструе, як могуць і мусяць быць разьведзеныя беларуская гістарыяграфія і беларуская гістарычная міталёгія. Але якраз такога разводу ў нас не адбываецца. Дзеяньні гісторыкаў у выніку гэтага выглядаюць самаедзтвам.

Трапяткое стаўленьне нашых гісторыкаў да гістарычных фактаў у папулярных жанрах сьведчыць пра маладосьць і слабасьць беларускай гістарычнай навукі. У выніку нічога не напрацоўваецца ў грамадзкай сьвядомасьці, а шчырае шуканьне праўды адбіваецца адваротным вынікам. То нехта бярэцца абвяргаць вартасьць Скарыны: маўляў, мова ягоных кніг не была беларускай. Або апошні прыклад — інтэрвію Кастуся Тарасава пра Аршанскую бітву, якая, паводле пісьменьніка, ня мела значэньня і на нашым баку была прадстаўленая беларусамі толькі напалову.

Для масавае сьвядомасьці сымбалі важнейшыя за значэньні. І бітва пад Воршай 1514 году апошнім часам сапраўды пачала станавіцца сымбалем менавіта беларускае перамогі, а не кааліцыйнай, як, напрыклад, Грунвальд. Ні палякі, ні літоўцы, ні нават расейцы нашых продкаў пад Грунвальдам і ня згадваюць. Хоць значэньне бітвы ў нашай мінуўшчыне ад гэтага ня меншае. Што да бітвы пад Воршай, дык яна мяняе стэрэатып пра тое, што для беларусаў разам з расейцамі галоўным агрэсарам заўсёды была Нямеччына. Бо пад Воршай беларусы разграмілі якраз расейскае войска.

Схема, якая добра працуе ў так званых разьвітых краінах, такая. Гісторыкі распрацоўваюць гістарычныя тэмы, а ў школьных падручніках пішуць прыгожыя казкі, якія мусяць выхоўваць любоў да свайго і гонар за краіну. А несупадзеньне гэтых дзьвюх плыняў дае падставу для сэнсацыйных артыкулаў у прэсе, якія найлепшым чынам абуджаюць цікавасьць публікі да гістарычных ведаў. Вось Сусаніна як такога не было — піша газэта. Хто не прачытае такі артыкул? Або пра тое, што Мінін і Пажарскі былі звычайнымі афэрыстамі. Зразумела, што такі матэрыял, падмацаваны фактамі рэальнай гісторыі, выкліча ўсеагульную цікавасьць. Але вынікам ня стане знос помніка на Краснай плошчы ў Маскве. Вынікам стане ажыўленьне ў памяці шырокае публікі гістарычных зьвестак. Прынамсі, лішні раз людзі згадаюць, хто зь іх быў князь, а хто грамадзянін.

Тут у значнай ступені адказ на вышэй пастаўленае пытаньне, чаму кожны літовец ведае пра князя Яўнуціса, і чаму ніводзін паспаліты беларус ня скажа, хто такі быў Яўнут. Бо з усёй схемы гістарычных ведаў у нас найбольш плённа працуе апошні аспэкт — сэнсацыйнае абвяржэньне таго, што толькі зачапілася за чалавечую памяць. Працягваецца даўняя савецкая традыцыя, трапна вызначаная ў вершы беларускага школьнага клясыка Міхася Чарота:

*Трынаццатай песьняй прарочу*
*Беларусі лапцюжнай славу.*
*Беларусь болей слухаць ня хоча*
*Пра Рагнеду і Ізяслава.*

Сяргей Паўлоўскі



Фота Міхала Баразны.

## ДВА ПЫТАНЬНІ ГІСТОРЫКУ ГЕНАДЗЮ САГАНОВІЧУ

мае быць у сваёй справе. Як, напрыклад, у той жа Нямеччыне ці ў Польшчы.

— **Якія здабыткі мае за апошнія гады наша гістарычная навука і гістарычная міталёгія?**

— Пасьля заснаваньня Рэспублікі Беларусі практычна нічога не зьявілася эпахальнага. І калі гаварыць пра прадукцыю, якая можа канкураваць на эўрапейскім рынку, тут у памяць прыходзіць толькі хіба тое, чаго дасягнула беларуская гістарычная картаграфія. Маю на ўвазе працу Міхаіла Сьпірыдонава «Мапа Беларусі XVI ст.», якой зайздросьцяць нават суседзі. Яшчэ выдзяляецца Энцыклапэдыя Гісторыі Беларусі, але гэта не назавеш дасягненьнем навукі.

Прасьцей зь мітамі. Яшчэ больш удалы міт, чым Ворша, — гэта міт Грунвальду, запушчаны таленавітым гістарычным пісьменьнікам Кастусём Тарасавым у сярэдзіне 80-х. Ад гэтага міту нясе такім добрым духам панславізму ўзору першай і другой сусьветных войнаў. Тым не менш, ён успрымаецца літаральна ўсімі — і інтэлігенцыяй, і неінтэлігенцыяй. Хоць насамрэч усё тут ня так проста. І той славуты выраз, што нага ўзброенага немца не ступала на зямлю Беларусі ад Грунвальду да першай сусьветнай вайны — гэта няпраўда. Другі гэткі ж міт — міт пра Вялікае Княства Літоўскае як беларускую дзяржаву, інсьпіраваны Міколам Ермаловічам таксама яшчэ ў 80-х. І тут усё страшна складана — для навукоўца, для беларускага гісторыка нават яшчэ няясна, што ёсьць сярэднявечнай дзяржавай. Але нездарма для жыцьця міту патрэбная толькі вера.

С.П.

# КАРПІЛАЎКА

## ПАДАРОЖЖА НА СЯЛІБУ АНТОНА ЛЯВІЦКАГА




Зьміцер БАРТОСІК

Празь невялічкую, у дзесяць двароў, вёску пралёг белы шлях, ахайна выкладзены бэтоннымі плітамі. Старыя жылыя хаты абапал гэтай узьлётнай паласы глядзеліся амаль недарэчна. Узьнікалі асацыяцыі з Хатыньню. Маленькая згорбленая бабулька, некага нягучна праклінаючы, палола гарод. Да яе я й зьвярнуўся са сваім галоўным пытаньнем: «Чым славутая вашая вёска?» На што старая адразу ж выдала вычарпальны адказ: «Дык вунь, ліпы бачыш? Там Лявіцкія жылі».



Творы Ядвігіна Ш., Антона Лявіцкага, я чытаў. Невялічкія вясёлыя байкі, у якіх няхітрыя беларускія дзядзькі становяцца ахвярамі анэкдатычных махлярстваў. Асабліва запомнілася мова гэтых анэкдотаў, яшчэ не ўнармаваная правіламі, жывая.

Старая Надзея Левандоўская паскардзілася мне на нейкую менскую прайдзісьветку, што за вялікія грошы прадала ёй амэрыканскае насеньне, якое прарасло нянаскай прыгажосьці жоўтымі кветкамі заморскага сарняка, і над якім бабка ўжо трэція суткі гнула сьпіну, праклінаючы тую Амэрыку, што спачатку адаравала нас каларадзкімі жукамі, а цяпер «гэтай жоўтай трасцай». Я ж, выдаючы спачуваньне, з насалодаю слухаў яе мову, дзівячыся, што першая пачутая мной карпілаўская гісторыя была нібы зь Ядвігінскага рэпэртуару.

«А дому даўно няма. Як удаву ягоную з сынамі НКВД забрала, так і стаяў. Пакуль калхоз некуды яго не прадаў. А дом прыгожы быў, з балконам і рознакаляровымі вакенцамі. А пасьля яшчэ доўга нашы мужыкі падмуркі рылі. Усё нейкае золата шукалі», — распавядала бабулька. А я чарговы раз схамянуўся ад супадзеньня. «Золата». Менавіта так называўся першы беларускі раман, напісаны гаспадаром зруйнаванай сядзібы. «І што, няўжо знайшлі?» — пацікавіўся я. — «А, — махнула старая рукой, — ня там, відаць, шукалі».



«Нічога не мяняецца на гэтай зямлі», — думаў я, вырульваючы ў стары парк былой сядзібы Лявіцкіх. Але карціна, убачаная там, уразіла й перакanala ў адваротным. Сярод зьдзічэлых яблыняў і ружовага кустоўя закінутага саду зеўрала залітая застаялаю зялёнаю вадою яма, абкладзеная вялікімі шэрымі валунамі.

Непадалёк мірна застыў бэтонны дот першай абарончай лініі савецкай мяжы 39-га году. Самае месца задумацца пра марнасьць чалавечага лёсу ў гэтай краіне.

Нарадзіцца празь пяць гадоў пасьля вялікага паўстаньня, вучыцца ў нелегальнай люцынскай школцы ў адной з дачок Дуніна-Марцінкевіча, доўгімі завейнымі вечарамі слухаць дзіўныя гісторыі з вуснаў легендарнага гаспадара, паступіць у Маскоўскі ўнівэрсытэт і быць адлічаным за палітыку, пачаць пісаць па-беларуску ў бутырскай турме, вярнуцца дахаты на папялішча згарэлага дому да аўдавелай маці. Ажаніцца, пабудаваць па ўласным праекце новы дом з мансардаю і камінам, абсадзіць яго ружамі і садам, прайсьці пешшу ад Вільні да Карпілаўкі, зьбіраючы й друкуючы ў «Нашай Ніве» непрыдуманыя байкі яшчэ вясёлага люду, пачаць пісаць першы нацыянальны раман, увайсьці ў Раду БНР, паўдзельнічаць у паўднёвым паходзе генэрала Булак-Балаховіча, адпачыць пасьля баёў у Варшаве, выдаць кніжку ўспамінаў і легчы на вечны спачын на віленскіх могілках Роса.

Як не вязаліся з такім прыгожым шляхам прыгожага чалавека ні гэтая брыдкая зялёная яма, ні гэты дот, які так нікому ніколі й не спатрэбіўся. Але пачуцьцё вяртаньня дадому, выказанае ім у нашаніўскіх «Лістах з дарогі», ажыўляла пакінутую сядзібу.

**«Ну, але годзе ўжо гэтай гутаркі: годзе гутаркі на сягоньня а цыганіны на сёлета. Вось бо ўзгорак, а там — у доле векавыя дубы, ліпы стаяць — мае дубы, мае ліпы! Сад відаць — мой сад! А ўжо пры самым лесе паміж розных дрэваў выглядае дамок — мой дамок! Мой! Апісаць вам яго! Як жа я апішу, калі ён мой?! Бягу, ляту да яго!.. Бывайце здаровы!!»**

Я нарваў яблык з дрэваў, пасаджаных Лявіцкім, ды паехаў па сваіх справах. А сакрэт бэтонкі аказаўся вельмі просты. Дарога вяла на купалаўскія Акопы.

*Фота аўтара.*

# ДА ГІСТОРЫІ ЗЛАЧЫННАСЬЦІ Ў СССР

***Архіў Найноўшае Гісторыі выпускае новую кнігу — успаміны Рыгора Клімовіча "Канец Гарлагу". Аўтар успамінаў правёў 13 гадоў у ГУЛАГу, быў адным з кіраўнікоў Нарыльскага паўстаньня, якое ўспыхнула ў лягерах у 1953 годзе. "НН" ужо публікавала інтэрвію з Рыгорам Клімовічам (1998, № 13).***

***Напісаная дзесяць гадоў таму кніга вельмі цяжка прабівалася ў сьвет. Яна павінна была ўжо выйсьці ў Маскве і Коўне. Але сымбалічна, што яна, нарэшце, выходзіць у Менску. Хоць да апошняга моманту гэты праект быў на мяжы зрыву.***

***Мэмуары Рыгора Клімовіча адметныя тым, што аўтар не імкнецца залішне мадэрнізаваць свае ўспаміны — ён гатовы разважаць пра падзеі савецкай гісторыі і лягернага жыцьця з пазыцыяў сучасьніка тых падзеяў, выкарыстоўваючы, у тым ліку, і тагачасны катэгарыяльны апарат.***

***Урывак кнігі, які прапануецца чытачам "НН", ёсьць аўтарскім бачаньнем прычынаў масавае крыміналізацыі савецкага грамадзтва. Пра гэта піша чалавек з досьведам лягерніка, які меў магчымасьць непасрэдна назіраць крымінальны сьвет ды кантактаваць зь ім.***

***Такім чынам, прапануецца тэма, якая вырываецца з архіву і пераходзіць у жыцьцё.***

**Алег Дзярновіч**
*Публікацыя падрыхтаваная ў рамках праграмы "Адна зямля — Усходняя Эўропа"*


Рыгор Клімовіч. Фота канца 50-х гадоў

Рыгор КЛІМОВІЧ

Уласна крымінальшчына і злодзеі не зьяўляюцца нейкім дзівам — яны былі заўсёды і паўсюль, ва ўсе часы і ва ўсіх народаў. Наўрад ці й цяпер знойдзецца ў сьвеце такое цывілізаванае і багатае грамадзтва, якое магло б, ня крывячы душой, заявіць, што яно вольнае ад гэтага накіпу, што спадарожнічае актыўнаму яго жыцьцю. Але ўвесь злачынны сьвет мінулага, нават той, які быў у старадаўнім Рыме пад час сацыяльных узрушэньняў і занепаду, немажліва параўнаць з тым, які зьявіўся ў Расеі пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Злодзейская «маліна» ў СССР — гэта зьява асаблівая, выключная, якая мае і сваю перадгісторыю, і сваю гісторыю. Гэтая зьява ўзьнікла ў выніку рэвалюцыйных пераўтварэньняў сацыяльнага, палітычнага і духоўнага жыцьця, праўных нормаў, дзяржаўных і грамадзкіх стасункаў — пераўтварэньняў, што ажыцьцяўляліся ня шляхам разумнага выкарыстаньня старога пры адначасным стварэньні новага, а ў выніку ломкі ўсяго старога, каб потым ужо, на яго развалінах, будаваць новае.

Тры гады бушавала грамадзянская вайна. І, нарэшце, стары сьвет рухнуў, пахаваўшы пад сваімі разваліннамі сотні тысячаў змагароў за чырвоную, белую і проста мужыцкую праўду. А ў выніку сотні тысячаў дзяцей засталіся сіротамі і апынуліся на галоднай, спустошанай вуліцы, дзе гаспадарылі рэвалюцыяй вызваленыя з-за кратаў рэцыдывісты і квітнела злодзейская «маліна». Хутка, пад уплывам такой вуліцы, гэтыя дзеці сталі іншымі. Яны зусім парвалі са сваім мінулым, нават з прыналежнасьцю да варожага лягеру, і, адчуўшы сябе роўнымі — дзецьмі аднаго паходжаньня, дзецьмі грамадзянскай вайны — люмпэн-пралетарамі, беспрытульнай вулічнай шпаной, прасякнуліся пагардай да побыту, нораваў і псыхікі людзей не свайго кола, а разам з тым і да працы, якая абумоўлівалася гэтымі не прызнаванымі побытам, норавамі і псыхікай. Пад крылом і чалом дасьведчаных рэцыдывістаў яны прынялі антыграмадзкія паняцьці і мараль як адзіна належныя вольнаму чалавеку, і неўзабаве самыя кемлівыя і пранырлівыя зь беспрытульнай шпаны сталі злодзеямі. Вуліцы гарадоў і праезныя дарогі сталі раптам небясьпечнымі ня толькі ўначы, але і ўдзень. І толькі зараз, занепакоеныя буйным разгулам злодзеяў, тыя, хто мае ўладу, якія да гэтага дзень і ноч мітынгавалі, вырашаючы «злабадзённае» пытаньне — зь якога кута зручна пачынаць будаваць новы сьвет — нарэшце зьвярнулі ўвагу на беспрытульных дзяцей і, угледзеўшы ў злодзейскім разгуле небясьпечны рэцыдыў старога сьвету (балазе было на каго сьпісваць уласныя грахі), пачалі тэрмінова ствараць працоўныя камуны і каленіі, прызначаныя для перавыхаваньня малалетніх правапарушальнікаў.

Аднак страчаны час пагражае наступствамі. Пакуль адбываліся мітынгі, беспрытульныя дзеці, якімі рухала крыўда на абыякавае стаўленьне грамадзтва да іх, з галавой акунуліся ў злодзейскую «маліну», заразіліся яе заганнымі свабодамі і моцна зьвязалі зь ёй сваё жыцьцё. У іх выпрацаваліся свае паняцьці пра жыцьцё, пра сваё месца ў гэтым жыцьці, свая мараль, свае прынцыпы, сваё стаўленьне да людзей і да грамадзтва ўвогуле. Пераканаць іх было амаль немагчыма. І нават такі таленавіты пэдагог як Макаранка, які загадваў каленіяй імя М.Горкага, іншы раз прыходзіў у адчай, бачачы, як усе яго пэдагагічныя намаганьні разьбіваюцца аб закасьцянелыя ў граху душы каленістаў. Гэта ўжо быў ня нейкі цяжкія, са страшнай крыўдай у сэрцы дзеці, а злачынцы са сваёй асаблівай ідэалёгіяй, асноўным прынцыпам якой было сьцьвярджэньне, што крадзёж зьяўляецца адзіным вартым вольнага чалавека заняткам і што толькі злодзей мае права называцца чалавекам, а ўсе астатнія людзі — гэта мужыкі, чарты, фраяры, быдла, якім «на родзе напісана ўпірацца рагамі» — працаваць і ствараць матар'яльныя каштоўнасьці, дзеля таго, каб злодзеям было што красьці і выкарыстоўваць скрадзенае адпаведна сваім заганным схільнасьцям.

Ачысьціць душу выхаванцаў ад такой ідэалёгіі не маглі й агульнапрынятыя палажэньні пэдагогікі, і навачныя заходы ... [?]

Ачысьціць душу выхаванцаў ад такой ідэалёгіі не маглі й агульнапрынятыя палажэньні пэдагогікі, і навуаўвядзеньні Макаранкі. Але паколькі за Сталіным панятак «праўда» ўспрымаўся як клясавая неабходнасьць, то, сыходзячы з гэтай неабходнасьці, дадзеная бездапаможнасьць была абвешчаная як посьпех, як перамога новых мэтадаў пэдагогікі, дзякуючы якім, як гэта гучна абвясьціў Макаранка, у дзіцячых дамах, каленіях і камунах былі «выратаваныя мільёны беспрытульных дзяцей», і ў пацьверджаньне такой праўды спасылаліся на прыклад каленіі імя Горкага, у якой са злодзеяў і бандытаў нібыта былі выхаваныя сапраўдныя людзі з высокім пачуцьцём доўгу і прыхільнасьцю да калектыву. Бясспрэчна, у каленіі імя Горкага было зроблена шмат. Але гэтае многае было зроблена ў каленіі, дзе сярод выхавальнікаў не было ніводнага нязлодзея, усё было зроблена ў замкнёнай злодзейскай супольнасьці, цалкам у адпаведнасьці зь яе ідэалёгіяй. Выхаваньне ў каляністах пачуцьця доўгу было пачуцьцём доўгу перад сваімі таварышамі, а прыхільнасьць да калектыву зьяўлялася прыхільнасьцю да злачыннага сьвету. Па-за гэтым сьветам каляністы былі вольныя ў сваіх учынках. Іх стаўленьне да навакольнага люду вызначалася формулай: «добры мужык — выкалі яму вока, яшчэ лепшы — выкалі два». І гэтыя стасункі Макаранка не спыняў, а наадварот, падтрымліваў, надаваў ім «законны від і толк» і тым самым выхоўваў у сваіх гадаванцах не любоў да бліжняга, а любоў да такіх, як яны самі; не павагу да добрага і разумнага, а зло; не прыхільнасьць да чалавечага грамадзтва, а пагарду да людзей ня іх кола. Ён, як бы для большага задавальненьня «урак», удасканальваў і разьвіваў іх ідэалёгію. Яго выхавальнікі выглядалі добрапрыстойнымі людзьмі толькі на выгляд і толькі ўнутры каленіі, у сваім асяродзьдзі, і непазнавальна зьмяняліся, калі апыналіся па-за ёю. У сваёй выхаваўчай дзейнасьці ён нічога не дасягнуў. Яго пэдагагічныя навуаўвядзеньні былі няздатныя вытравіць зь дзіцячых душ вулічную ідэалёгію, яго гадаванцы як былі злодзеямі, так і заставаліся. І калі, прайшоўшы курс перавыхаваньня, назаўсёды пакідалі каленію, яны, не задумваючыся, вярталіся да мінулага свайго рамяства.

Праз шмат гадоў зь некаторымі выхавальнікамі каленіі імя Горкага мне давялося сустрэцца ў лягерах. Макаранку яны не забывалі, гаварылі пра яго станоўча, душэўна-цёпла, называлі яго «талковым фраерам», «мужыком што трэба», які, паводле іхных словаў, не баяўся ў выпадку чаго, калі гульня не фарціла — канаць з казырнога туза і цісмуць на псыхіку.

Сустракаліся мне ў лягерах і выхавальнікі іншых каленіяў, і я з упэўненасьцю магу сказаць, што працоўныя камуны й каленіі свайго прызначэньня не апраўдалі. Яны выратавалі мільёны беспрытульных дзяцей ад галоднай сьмерці, але ня выратавалі іх душы; злачыннаму сьвету іх дзейнасьць ніяк не зашкодзіла, ён працягваў лютаваць з той самай маштабнасьцю. Перамагчы яго магло толькі здаровае, забясьпечанае, высокамаральнае грамадзтва, у якім цалкам сталі б немагчымыя заганныя зьявы вулічнай ідэалёгіі. Злачыннасьць ня зьменшылася, а наадварот, год ад году расла. А хутка новыя сацыяльныя пераўтварэньні, што ўрэшце разладзілі жыцьцё ў нашай краіне — індустрыялізацыя, культурная рэвалюцыя, калектывізацыя і выкліканы імі голад 1932—1933 гадоў — выкінулі на вуліцы новыя натоўпы беспрытульных дзяцей, што ў пошуках кавалку хлеба міжволі станавіліся памагатымі злодзеяў. І зноў тыя, хто меў уладу, не пасьпяшаліся на дапамогу дзецям, якія па іх віне знаходзіліся ў бядотным становішчы. Стыхія масавай беспрытульшчыны ўлады не непакоіла — яны ня бачылі ў ёй ніякай небясьпекі для будаўніцтва сацыялізму. Вулічная ідэалёгія злачыннага сьвету не была цалкам варожай ідэалёгіі ўладаў, а што да «гракоў»-сялянаў і іх маёмасьці, дык і ўвогуле ідэнтычнай. Але як толькі маёмасьць гракоў пазвозілі на калгасны двор і панацыяналізоўвалі прадпрыемствы нэпманаў, дык ад гэтай ідэнтычнасьці не засталося й сьледу. Не знаходзячы болей спажывы ў кішэнях прыватнікаў, злодзеі, а разам зь імі і ўся беспрытульная шпана, абурыліся несумленнымі паводзінамі ўладаў, якія сабе забралі ўсё, а ім нічога не пакінулі, і, прэтэндуючы на сумленны дзялёж, пачалі шарыць па дзяржаўных кішэнях. Са спадарожніка злачынны сьвет ператварыўся ў ворага.

І ўлады, да гэтага добрыя, улады, што лагодна ставіліся да злодзейскіх штучак «урак», якія, на зло кулакам і іншым «ворагам народу», заахвочвальна называлі іх «сябрамі народу», бачачы ў іх будучых грамадзянаў сацыялізму, вольных ад прыватнаўласьніцкіх інтарэсаў і клясавых забабонаў, раптам сталі незгаворлівыя і жорсткія. Адкрытыя каленіі кшталту імя Горкага былі пераробленыя ў закрытыя — акружаныя калючым дротам і ўзятыя пад узброеную ахову. На ўсю моц запрацавалі суды, накіроўваючы злодзеяў у папраўчыя лягеры, а малалетніх злачынцаў — у адкрытыя папраўчыя каленіі, дзе для іх перавыхаваньня з усёй багатай пэдагагічнай спадчыны Макаранкі быў прызнаны мэтазгодным і ўжываўся без абмежаваньняў толькі мэтад фізічнага пры-

мусу. Аднак такі мэтад быў самым неадпаведным для перавыхаваньня крымінальнікаў. Прымус дзейнічаў на іх, як чырвоны плашч на быка — пры выглядзе яго яны выбухалі злосьцю і падпарадкоўваліся яму толькі з зубоўным скрыгатам, стаічна пераносячы любыя цяжкасьці. Пераносіць цяжкасьці ім было не ўпершыню; трываць іх яны прызвычаіліся з самага дзяцінства, якое ніколі не забывалі і якое крывацечнай крыўдай сьціскала душу кожнага зь іх, заклікаючы да помсты. Але з прычыны сваёй неадукаванасьці яны не маглі зазірнуць у корань і сваю крыўду спагнялі на мужыках, праводзячы іх у лягерах цераз тыя жудасныя выпрабаваньні, якіх зазналі самі, калі былі беспрытульнымі дзецьмі. Іх самавольства ў лягерах было своеасаблівым, абумоўленым зладзейскай ідэалёгіяй, выяўленьнем пераўтворанай у злосьць крыўды, было як бы стыхійным бунтам скалечанай душы, бунтам, адначасова небясьпечным і для мужыкоў, і для адміністрацыі. Уціхамірыць гэты бунт шляхам прымусу было немагчыма. Прымус паглыбляў крыўду і тым самым балюча кранаў іх незагойную рану. Яны ўспрымалі яго як бесчалавечны выклік сабе і паколькі былі не з баязьлівых, не ламаліся пад ягоным узьдзеяньнем, а зь цьвёрдай упартасьцю пераносілі ўсе экзэкуцыі, якім іх падвяргалі, і, губляючы пры гэтым рэшткі веры ў фраерскую добрасумленнасьць, камянелі душой. З БУРу (барак узмоцненага рэжыму), ШІЗО (штрафны ізалятар) ці штрафной камандзіроўкі яны вярталіся не ўтаймаванымі, а яшчэ больш азлобленымі і з поўнай перакананасьцю ў сваёй перавазе перад усімі, хто, як яны, «ня чаліўся ў штрафніках». Прымус гартаваў злосьць, адасабляў ад людзей іх кола, мацаваў іхную ўпэўненасьць, што яны людзі асаблівыя, выключныя, не падобныя на ўсіх іншых, звышчалавекі; ён выхоўваў іх злачынцамі. Адбыўшы тэрмін — а ім тэрміны давалі невялікія, ня тое, што контрыкам — і, перавыхаваўшыся падобным чынам, яны выходзілі на волю налаўчонымі ў зладзейскім жыцьці, «уркамі», і адразу ж прымаліся красьці і растрыньківаць жыцьцё ў злодзейскай «маліне». Яны нідзе не прапісваліся, жылі нелегальна, ад гораду да гораду езьдзілі па Саюзе, кралі, пілі, гралі ў карты, што называецца, гулялі на волі і, як правіла, гулялі нядоўга — іх ізноў затрымлівалі і зноў саджалі за краты. Лягер быў іх родным домам, а воля — накшталт санаторыю, якім яны карысталіся ад выпадку да выпадку, каб пацешыцца й пагуляць. Колькі іх усяго было — наўрад ці статыстыка змагла б адказаць. Лягчэй палічыць які-небудзь від пералётных птушак ці тыграў ва ўсурыйскай тайзе, чым савецкіх злодзеяў, што шнырылі ў кватэрах, пад'ездах, базарных плошчах і нават пралазілі ў такія шчыліны, куды, лічылася, камар носу ня мог усунуць. І ўсё ж прыблізную лічбу назваць можна. Калі ўлічыць, што ў кожнай лягернай брыгадзе колькасьцю ў 25—30 чалавек было 4—5 злодзеяў, то атрымліваецца, што ад агульнай колькасьці зьняволеных лягеру злодзеі складалі адну сёмую частку, і, дапускаючы, што ў лягерах, дзе ўсяго сядзела 8 мільёнаў чалавек, і калі меркаваць, што з трох злодзеяў два ўвесь час знаходзіліся ў турме, можна беспамылкова сцьвярджаць (бо лічбы ўзятыя самыя сьціплыя), што колькасьць злодзеяў пад час кіраваньня мудрага правадыра пралетароў усіх краін складала каля двух мільёнаў чалавек.

Такой колькасьці сяброў ня мела ніводная палітычная партыя ў перадрэвалюцыйнай Расеі. І трэ было глядзець праз нейкія чароўныя акуляры, каб бачыць гэтыя два мільёны азлобленых «урак» каналаармейцамі, героямі працы, якімі бачыў іх Горкі, заявіў у друку, што ён асабіста назіраў на будаўніцтве Беламорканалу, якія добрасардэчныя цярплівыя пэдагогі з ОГПУ без усялякага прымусу, адным толькі праўдзівым словам перавыхоўвалі закаранелых рэцыдывістаў. У сваіх артыкулах «О воспитании правдой» і «От врагов народа — к героям труда» ён пісаў: «Сярод гэтых людзей (крымінальнікаў — ***Р.К.***) былі многія сотні такіх, якія адмовіліся працаваць, заявіўшы: «Рабіце з намі, што хочаце, а працаваць ня станем! ..» Пасьля такога бунту да іх зьяўляўся хто-небудзь з чэкістаў... Яго сустракалі лаянкай, сьвістам, а ён казаў ім: «Што ж, рабяты, не жадаеце працаваць? Працуюць «контрыкі», працуюць людзі, якія былі горай і шкодней, чым вы, а вы вырашылі задарма есьці працоўны хлеб работнікаў і сялянаў?.. Вазьміцеся за розум, падумайце, чаму вамі абраны шлях парушальнікаў права, злачынцаў?..» І праз некаторы час людзі, абцяжараныя і асьлепленыя злобай на сваё бессэнсоўнае жыцьцё драпежнікаў, паступова скідваюць з плеч цяжар перажытага, расплюшчваюць вочы, бачаць, як бессэнсоўна жылі яны, і пачынаюць працаваць па-ўдарнаму, «не за страх, а за сумленьне», нават пабойваючыся, каб іх не зьмясьцілі на «чорную дошку» ці не паказалі ў газэце «Перековка» ў выглядзе «мокрых курыц».

І тут жа ў гэтых артыкулах Горкі патэтычна пытаў: «Дзе і калі магло здарыцца такое?» На жаль, адказваць яму даводзіцца без усялякага энтузіязму: «Нідзе і ніколі падобнае здарыцца не магло». І хай ахоўвае публіцыста Горкага ад гэтых «каналаармейцаў» цень вялікага Сталіна — інакш, за тое, што ён «сумленных злодзеяў» абярнуў у «сук», яны яму такога не даруюць і на тым сьвеце. Абараняць свой злодзейскі гонар яны ўмелі, а праўду пра сябе ведалі лепш, чым хто.

Як фраер, Горкі ня мог прысутнічаць на злодзейскіх талкавішчах, якія ў той час, калі ён пісаў гэтыя артыкулы, адбываліся паўсюль — у лягерах і на волі, на якіх з мэтай абароны злачыннага сьвету ад прымусовых мер узьдзеяньня на яго, што ўжываліся «мусарамі» з ОГПУ, быў адпаведна ідэалёгіі гэтага сьвету зроблены больш жорсткім зладзейскі закон. Адбылася не «перакоўка» сацыяльна хворых і небясьпечных людзей, як сьцьвярджаў Горкі, а падкоўка — злачынны сьвет, узмацніўшы свой закон, узмацніў хваробу і стаў яшчэ больш небясьпечным для сацыялістычнага будаўніцтва. Ад гэтага часу, згодна зь няпісаным законам, злодзею не дазвалялася: працаваць, служыць у войску, выконваць даручэньні ўладаў і садзейнічаць ім, прымаць удзел у грамадзкіх мерапрыемствах, разам з мужыкамі ці для мужыкоў сьпяваць, танчыць, выяўляць свае здольнасьці. Злодзей быў абавязаны, строга трымаючыся правілаў злачыннай супольнасьці, красьці, гуляць у карты і атрымліваць асалоду ад жыцьця. Перад гэтым законам усе злодзеі былі роўныя, і калі хто-небудзь зь іх ня так ступаў, дапускаў нязначнае парушэньне, напрыклад: падаў «мусару» руку, на просьбу опэра разагрэў замерзлыя чарнілы, своечасова не заплаціў картачнае віны, ён, выкрыты злодзеямі ў парушэньні, абвяшчаўся «сукай» і яму прысуджалася сьмерць.



Тайшэт. Перасыльны лягер 601. Аўтар (другі зьлева) зь сябрамі-вязьнямі. 1958 г.

Такі закон выключаў таксама магчымасьць перавыхаваньня, якога-кольвек кампрамісу з грамадзтвам ці ўладай. Ён пазбаўляў злодзеяў свабоды выбару і намёртва змацоўваў іх са злачынным сьветам. Аднойчы зьвязаўшы сябе з гэтым сьветам, злодзей ужо ня мог бяз рызыкі для жыцьця парваць зь ім, як бы да гэтага ні змушалі абставіны ці ўласныя меркаваньні. Ад злодзейскіх вачэй яму было не схавацца, яны былі паўсюль: і ў глухой вязьніцы, і ў шумным горадзе, паўсюль злодзейская Нэмэзыда падпільноўвала парушальніка закону, «суку». Тыя крымінальнікі, што трапілі пад злодзейскі закон, апынуліся нібы паміж молатам і кавадлам: з аднаго боку — злодзейскі закон, з другой — «выхаваўчыя» рэпрэсіўныя меры, вытрымаць якія іншы раз было няпроста; і многія, не вытрымліваючы, ламаліся, станавіліся «сукамі». Але бальшыня, акамянеўшы душой, «перавыхаваньню» не паддавалася, заставаліся ў законе і ў супрацьборстве з «сукамі» і раз-пораз наладжвала разьню. І калі б чэкісты, якія суправаджалі Горкага ў паездцы па Беламорстрої, дазволілі яму зьняць тыя чароўныя акуляры, якія яны ўшчапілі на ягоныя вочы, і пабачыць лягеры, а не пацёмкінскія вёскі, наўрад ці ён стаў бы складаць панэгірыкі таму, пра што трэба пісаць сумныя элегіі; ён бы на свае вочы пераканаўся, што запозьненае перавыхаваньне сацыяльна-шкодных элемэнтаў у карысныя ажыцьцяўлялася ў лягерах ня нейкімі павучальнымі натацыямі, а вельмі жорсткімі мэтадамі прымусу і суправаджалася панажоўшчынай, якая сярод крымінальнікаў была адзінай санкцыянаванай зладзейскім законам формай высьвятленьня стасункаў паміж злодзеямі ў законе і тымі, хто перавыхаваўся, і што лягерная адміністрацыя не спыняла гэтай панажоўшчыны, а спрыяла ёй: яна то «сук» кідала ў злодзейскую камандзіроўку, то злодзеяў — у «сучую», і, дзейнічаючы ў інтарэсах перавыхаваньня, час ад часу наладжвала Варфаламэеўскія ночы — то злодзеі рэзалі «сук», то «сукі» — злодзеяў. Але пра такое перавыхаваньне Горкаму ведаць было не дазволена. А злодзеі з-за сваёй разумовай і каставай абмежаванасьці ня ведалі, што рабілі, і ў простасьці душэўнай меркавалі, што гэтая, навязаная ім міжсобіца, зьяўляецца іх нутраной справай — спрэчкай блатных паміж сабой — і ў абарону сябе як людзей, няхай нават і злачынных, але якіх падвяргаюць нечалавечаму абыходжаньню, голасу не падавалі.

У тыя гады гэтая міжсобіца імі ўспрымалася як натуральны канфлікт. Парушыў закон — май паводле закону. А як, пры якіх абставінах парушыў? На гэта не зьвярталі ўвагі. У парушэньні яны бачылі толькі факт парушэньня і рэагавалі на гэты факт у цьвёрдай адпаведнасьці з прымітыўна-катэгарычным палажэньнем свайго закону. Прычына, што спарадзіла той ці іншы факт, іх не цікавіла, яны над ёй не задумваліся.

І толькі потым, праз шмат гадоў, калі пад ціскам рэпрэсіяў супраць іх многія злодзеі перакоўваліся ў «сук», а панажоўшчына стала масавай, у галовах законьнікаў зьявілася пэўнае прасьвятленьне: яны, нарэшце, зразумелі, што ня ўсякага «суку» трэба рэзаць і ня ўсякаму мужыку — выколваць вочы, што трэба перагледзець закон, інакш ім не пазьбегнуць самазьнішчэньня, што яны ўжо на мяжы самазьнішчэньня. Такое прасьвятленьне парадзіла сярод крымінальнікаў розныя меркаваньні і толкі, і ў выніку, адпаведна гэтым меркаваньням, некалі адзіны злачынны сьвет раскалоўся на шэсьць груповак, а менавіта:

***«злодзеі ў законе»***;

***«сукі»*** — злодзеі, якія парушылі закон, але ня сталі служыць у карных органах;

***«пяты блёк»*** — сукі, якія працуюць у сыстэме карных органаў;

***«ракасоўцы»*** — злодзеі, якія служаць ці служылі ў войску;

***«махноўцы»*** — злодзеі ў законе, але якія ставяцца да сук як да людзей;

***«анархісты»*** — злодзеі ў законе, якія не ўваходзяць у ніводную з вышэйпералічаных груповак.

Стасункі паміж гэтымі групоўкамі былі часам вельмі складанымі, аднак панажоўшчына як форма высьвятленьня гэтых стасункаў, стала ўжывацца толькі адносна «пятага блёку». З гэтым блёкам у злодзеяў усіх масьцей міру не было, і ў сваім супрацьборстве зь ім яны, часта пакідаючы свае амбіцыі, аб'ядноўваліся з тымі мужыкамі, якія, абараняючы сваю чалавечую годнасьць так, як і яны, сьмела выступалі супраць крымінальнікаў «пятага блёку» як ланцуговых псоў адміністрацыі. Да такіх мужыкоў злодзеі пачалі ставіцца з павагай, прыслухоўвацца да іх думак, і калі знаходзілі меркаваньне слушным — то і потым не лічылі для сябе ганьбай рабіць так, як казалі мужыкі.

У лягерах пачынаў праклёўвацца для чэкістаў альянс злодзеяў і азлобленых мужыкоў, меркавалася кансалідацыя злачыннага сьвету на новых, больш разумных і дасканалых пачатках. Нядаўна «перавыхаваныя» мэтадам прымусу ліхія людзі маглі зноў апынуцца разам зь неперавыхаванымі, як кажуць, «вярнуцца на колы свае». ■

**5 кастрычніка** (аўторак) у Беларускім Калегіюме адбудзецца **прэзэнтацыя кнігі Рыгора Клімовіча «Канец Гарлагу»**. Прэзэнтацыя будзе праходзіць у бібліятэцы імя Янкі Купалы. Пачатак а 18.30. Мяркуецца ўдзел аўтара.

## 100 кніг XX стагодзьдзя

Нашаніўскі праект «100 беларускіх кніг XX стагодзьдзя» доўжыцца трэці год і будзе завершаны сёлета на Каляды. Сутнасьць праекту ў вызначэньні ста найбольш дарагіх і каштоўных здабыткаў кніжнай беларушчыны за апошняе стагодзьдзе. Увесь гэты час мы атрымлівалі сьпісы чытачоў і публікавалі рэйтынг выданьняў, якія называліся найчасьцей. Да канца 1999 году мы будзем працягваць зьбіраць вашыя прапановы і паведамляць пра зьмены ў выніковым сьпісе. Але паралельна з гэтым мы мяркуем друкаваць камэнтары вядомых літаратуразнаўцаў, крытыкаў і пісьменьнікаў, якія праналізуюць тое, што ў нас выходзіць, і дадуць гэтаму сваю ацэнку.

Сёньня ў Агульным Рэдакцыйным Сьпісе колькасьць назваў перасягнула шэсьць соцень. Напэўна, з часам будзе названа яшчэ болей кніг. Зь іх напярэдадні 2000 году мы й складзем тую залатую сотню.

Вось жа, дасылайце нам назвы вашых улюбёных выданьняў (іх ня мусіць быць больш за 100) і, калі пажадаеце, свой камэнтар. Самыя цікавыя допісы будуць надрукаваныя ў «Нашай Ніве». Таму адна просьба — паведамце, калі ласка, ваша імя, прозьвішча і, калі магчыма, месца жыхарства. Апошняя ўмова патрэбная яшчэ й для таго, каб урэшце мы ўсе атрымалі аб'ектыўную карціну. Пішыце нам на адрас рэдакцыі з пазнакаю «Сто кніг XX ст.». Дарэчы, старонку з нашым Агульным Сьпісам можна пабачыць у інтэрнэце (www.kraj.org).

А цяпер — сьпіс (толькі тыя выданьні, якія набралі 10 і болей чытачоўскіх галасоў. Сума галасоў падаецца ў дужках).

*Усе зьмены, якія адбудуцца ў гэтым сьпісе, будуць залежаць ад вашага актыўнага ўдзелу.*

**Крыт.**

Багдановіч Максім. **Вянок** *(31)*
Быкаў Васіль. **Знак бяды** *(28)*
Караткевіч Уладзімер. **Дзікае паляваньне караля Стаха** (26)
Геніюш Ларыса. **Споведзь** (25)
Колас Якуб. **Новая зямля** (25)
Сагановіч Генадзь. **Невядомая вайна** (24)
Тарашкевіч Браніслаў. **Беларуская граматыка для школаў** (24)
Ермаловіч Мікола. **Старажытная Беларусь** (22)
Быкаў Васіль. **Сотнікаў** (21)
Караткевіч Уладзімер. **Каласы пад сярпом тваім** *(21)*
Купала Янка. **Спадчына** *(21)*
Ластоўскі Вацлаў. **Кароткая гісторыя Беларусі** *(21)*
Смоліч Аркадзь. **Геаграфія Беларусі** *(21)*
Ігнатоўскі Ўсевалад. **Кароткі нарыс гісторыі Беларусі** *(20)*
Караткевіч Уладзімер. **Чорны замак Альшанскі** *(20)*
Арсеньнева Натальля. **Пад сінім небам** *(19)*
Мележ Іван. **Людзі на балоце** *(19)*
Туронак Юры. **Беларусь пад нямецкай акупацыяй** *(19)*
Аляхновіч Францішак. **У капцюрох ГПУ** *(18)*
Колас Якуб. **На ростанях** *(18)*
Купала Янка. **Жалейка** *(18)*
Гарэцкі Максім. **Рунь** *(17)*
Тарасаў Кастусь. **Памяць пра легенды** *(17)*
Віцьбіч Юрка. **Плыве з-пад сьвятое гары Нёман** *(16)*
Ермаловіч Мікола. **Па сьлядах аднаго міту** *(16)*
Караткевіч Уладзімер. **Хрыстос прызямліўся ў Гародні** *(16)*
Маўр Янка. **Палескія рабінзоны** *(16)*
**Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі.** І і ІІ т. *(16)*
Арлоў Уладзімер. **Таямніцы полацкай гісторыі** *(15)*
Караткевіч Уладзімер. **Зямля пад белымі крыламі** *(14)*
Ластоўскі Вацлаў. **Падручны расейска-крыўскі (беларускі) слоўнік** *(14)*
Чаропка Вітаўт. **Імя ў летапісе** *(14)*
Гарэцкі Максім. **Гісторыя беларускай літаратуры** *(13)*
Гарэцкі Максім. **Дзьве душы** *(13)*
Абдзіраловіч Ігнат. **Адвечным шляхам** *(12)*
**Беларусь.** Энцыкляпэдычны даведнік *(12)*
Геніюш Ларыса. **Ад родных ніў** *(12)*
Колас Якуб. **Сымон-музыка** *(12)*
Ткачоў Міхась. **Замкі Беларусі** *(12)*
Адамовіч Алесь, Брыль Янка, Калесьнік Уладзімер. **Я з вогненнай вёскі** *(11)*
Быкаў Васіль. **Сьцяна** *(11)*
Гарун Алесь. **Матчын дар** *(11)*
Даўнар-Запольскі Мітрафан. **Гісторыя Беларусі** *(11)*
Кіпель Вітаўт. **Беларусы ў ЗША** *(11)*
Ластоўскі Вацлаў. **Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі** *(11)*
Разанаў Алесь. **Вастрыё стралы** *(11)*
Цётка. **Хрэст на свабоду** *(11)*
Акула Кастусь. **Змагарныя дарогі** *(10)*
Алексіевіч Сьвятлана. **У вайны не жаночае аблічча** *(10)*
**Архітэктура Беларусі.** Энцыкляпэдыя *(10)*
Быкаў Васіль. **Альпійская баляда** *(10)*
Гілевіч Ніл. **Родныя дзеці** *(10)*
Дайнека Леанід. **Сьлед ваўкалака** *(10)*
Калубовіч Аўген. **Крокі гісторыі** *(10)*
Сямашка Яўген. **Армія Краёва на Беларусі** *(10)*

# Добрыя намеры

Уладзімер Юрэвіч. **Слова жывое, роднае, гаваркое...** Дапаможнік для настаўнікаў. — Менск: Мастацкая літаратура, 1998. — 282 с.

Першае, пра што падумалася пасьля чытаньня — настаўнік беларускай мовы — гэта, як правіла, чалавек з вышэйшай філялягічнай адукацыяй. Значыць, праходзіў курс гістарычнай граматыкі беларускай мовы, адвольным пераказам якога і зьяўляецца гэтая кніга. Паўтарэньне — маці навучаньня. Хто супраць? Я за!

Хібы дапаможніка ня ў тым, што аўтар направа й налева без асаблівай патрэбы цытуе Энгельсавы развагі на лінгвістычныя тэмы, хоць пасьля гэтага, безумоўна таленавітага, навукоўца лінгвістыка зрабіла не адзін крок наперад. Праблема новага падручніка ў тым, што колькасьць памылак, што прытуліліся на ягоных старонках, перавышае ўсе нормы прыстойнасьці. Справа нават ня ў тым, што прыкладаў зь літоўскае мовы, якія фігуруюць у кнізе, не пазнала б родная матка. Неваloданьне мовамі, спасылкі на якія фігуруюць у якасьці прыкладаў — даўняя праблема навукоўцаў, якія займаюцца параўнальна-гістарычным мовазнаўствам. Ну, што з таго, калі вясковаму настаўніку сказаць, што па-літоўску «мова» гэта — «кольба», а ня «калба»? Нічога. Хто будзе спраўджваць? Ніхто! Хоць, па ідэі, гэта павінны былі зрабіць рэцэнзэнты, рэдактары і іншыя адказныя за выпуск кнігі людзі. Ды ну яе, гэтую літоўскую мову. Нам бы зь беларускай разабрацца.

На старонцы 54 Уладзімер Юрэвіч піша: «Доўга даводзілася беларускім кніжнікам хавацца ад царскай цэнзуры, апранаючы лацінскі «сурдут» (*маецца на ўвазе выкарыстаньне лацінскага альфабэту. — А.А.*), пакуль ня грымнула рэвалюцыя 1905—1907 гадоў і не абудзіла нацыянальную сьвядомасьць беларусаў». Чалавек, які прачытаў хрэстаматыю па гісторыі беларускай літаратуры, абавязкова прыгадае, што беларускія літаратары ня толькі сьвядома карысталіся лацінскім альфабэтам, але й змагаліся за права пісаць і друкавацца «лацінкаю». І непрыемнасьці беларускага друку за царскім часам узьнікалі менавіта з-за «схізматычнага» альфабэту, які, на думку бацькоў беларускай літаратуры, быў на той час нашмат больш даступным сялянам, чым тая кірыліца. Ад якой царскай цэнзуры хаваўся Кастусь Каліноўскі, які для сваёй «Мужыцкай праўды» абраў лацінку?

Уладзімер Юрэвіч забыўся згадаць і пра ўжываньне іншых альфабэтаў у гісторыі беларускага пісьменства. Сапраўды, навошта настаўніку лішнія зьвесткі пра нейкіх там азіятаў?

Як лінгвіст, сп. Юрэвіч, натуральна, здагадваецца, што альфабэт не вызначае і, больш таго, не ўплывае на самабытнасьць мовы. Па-беларуску можна пісаць хоць хіраганаю хоць катаканаю, абы цябе маглі прачытаць твае адрасаты. І як лінгвіст, ён разумее, што мова ня можа «страціць самастойнасьць», як і тое, што разьвіцьцё моваў, падзеленых дзяржаўнымі межамі, пры адсутнасьці сучасных сродкаў камунікацыі, ня можа весьціся «сумесна». Проста піша лінгвіст для настаўнікаў і, відаць, ставіцца да прадстаўнікоў гэтай прафэсіі, мякка кажучы, неадэкватна. Гэта ягонае права. Але які сэнс рабіць працу для людзей, якіх ты не паважаеш? Няўжо дзеля таго, каб табе адказалі ўзаемнасьцю?

**Андранік Антанян**

## новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

Адамовіч Я. **Гармонія абставінаў — гармонія душы: Беларускае апавяданьне 50—60-х гадоў.** — Менск: Беларуская навука, 1998. — 159 с. — Наклад 800 ас. ISBN 985-08-0228-6

**Беларусы: У 8 т. Т. 3: Гісторыя этналягічнага вывучэньня** / В.Бандарчык; Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклёру імя К.Крапівы НАНБ; Рэдакцыйная калегія: В.Бандарчык, М.Піліпенка, А.Лакотка. — Менск: Беларуская навука, 1999. — 365 с.: іл. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-08-0283-9

*Раней у гэтай сэрыі выйшлі «Прамысловыя й рамесныя заняткі» й «Дойлідзтва». Трэцяя кніга прысьвечаная вывучэньню побыту й культуры нашага народу ад канца XVIII ст. да сёньня. Кніга разьлічаная на шырокае кола чытачоў. Цана 300 з гакам тыс. — для гэткае таміны няшмат.*

Быкаў В. **Знак бяды:** Аповесьці. — Менск: Мастацкая літаратура, 1999. — 478 с. (Беларуская проза XX ст.). — Наклад 3250 ас. ISBN 985-02-0494-X

*Праз пяць гадоў па выхадзе «Збору твораў у шасьцёх тамох» дзяржаўнае выдавецтва выпусьціла чарговую кнігу клясыка. Сэнсацыя — самы выхад кнігі. Яна шыкоўна аформленая: цьвёрдая вокладка, на брунатным тле — абведзеная ў залатую рамку рэпрадукцыя фрагмэнту карціны Фэрдынанда Рушчыца «Зямля»... Ажно меў, мусіць, рацыю Зьміцер Бартосік, які нядаўна ў «НН» пісаў, што «гэты том — апошні, так бы мовіць, плён супрацоўніцтва згаданага дзяржаўнага выдавецтва й самага вядомага беларускага пісьменьніка». Рэч у тым, што ў тэматычным пляне «Мастацкай літаратуры» на 2000 год твораў Васіля Быкава няма. Цана кнігі 700 тыс. рублёў.*

Васюковіч Л., Яленскі М. **Мэтодыка выкладаньня беларускае мовы ў сярэдняй школе.** Практыкум: навучальны дапаможнік. — Менск: Унівэрсытэцкае, 1999. — 176 с. — Наклад 5000 ас. ISBN 985-09-0281-7

*Паміж іншым, у кнізе публікуюцца навучальныя праграмы беларускае мовы з 1926 і 1935 гадоў — для параўнаньня з днём сёньняшнім: што мы за гэты час страцілі, а што набылі.*

Кабашнікаў К. **Малыя жанры беларускага фальклёру ў славянскім кантэксьце** / Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклёру імя К.Крапівы НАНБ. — Менск: Беларуская навука, 1998. — 188 с. — Наклад 600 ас. ISBN 985-08-0231-6

*Сувязі беларускага фальклёру з творчасьцю палякаў, расейцаў, славакаў, сэрбаў і ўкраінцаў на грунце малых жанраў — прыказак, прымавак і загадак. Цікава, чым кіраваўся аўтар, калі браў дзеля параўнаньня толькі пэўныя славянскія народы?*

**Мая Радзіма — Беларусь:** Атляс. Навучальны дапаможнік для 4-е клясы агульнаадукацыйнае школы зь беларускаю й расейскаю мовамі навучаньня. — Менск: Менская фабрыка каляровага друку, 1999. — Наклад 80000 ас.

*Гэты атляс — дадатак да аднайменнага падручніка-ўводзінаў у родную гісторыю. Што цікава, дык тое, што пасьля паўстаньня Касьцюшкі ідзе мапа ваенных падзеяў 1812 г., а за ёю адразу БССР і вялікая айчынная вайна. Калі раней у кнігах прагалам была сярэднявечная гісторыя, дык цяпер — сучасная.*

**Музычны слоўнік беларуска-расейскі. Музыкальный словарь русско-белорусский** / Аўтары-складальнікі: Г.Куляшова, Т. Мдзівані, Н.Юшчанка ды інш.; Навуковая рэдакцыя: Г.Куляшова, Л.Антанюк. — Менск: Беларуская навука, 1999. — 599 с.: нот. іл. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-08-0211-1

*Аўтары ўважаюць, што гэта «першая ў Беларусі спроба зборнага й сыстэматычнага выкладу зьвестак з розных галінаў музычнае культуры й мастацтва ў беларускай і расейскай мовах, распрацаваньня і ўпарадкаваньня музычнае тэрміналёгіі». Між тым, у сэрыі «Беларуская навуковая тэрміналёгія» ў 1926 годзе выйшаў слоўнікавы выпуск «Музычныя тэрміны», апрацаваны Юльянам Дрэйзіным, абыймо якога ахапляла тэарэтычныя веды з усіх галінаў музыкі, апроч новых на той час тэорыяў.*

Пашкоў Г. **Палескія вандроўнікі:** Лірычна-дакумэнтальны дзёньнік. — Менск: Полымя, 1998. — 208 с.: іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-07-0248-6

Песьціс В. ды інш. **Практыкум у кармленьні сельска-гаспадарчых жывёлаў:** Вучэбны дапаможнік / В.Песьціс, А.Салдаценка, М.Яцка. — Менск: Ураджай, 1997. — 198 с. — (Навучальныя дапаможнікі для сярэдніх спэцыяльных сельска-гаспадарчых тэхнікумаў). — Наклад 1000 ас. ISBN 985-04-0194-X

**Пралеска:** Хрэстаматыя для дзіцячага садка й пачатковае школкі / Укладаньне А.Сачанкі. — Менск: Выдавец Ул.Скакун, 1997. — 704 с. — Наклад 15000 ас. ISBN 985-6235-08-1

*Сярод хрэстаматыяў гэтая адметная сваёю моўнаю стракатасьцю — расейска-беларускаю мяшанкаю дзіцячых твораў. Цяпер усё часьцей на кніжным рынку зьяўляюцца гэткія гермафрадыты. І гэты штучна створаны білінгвізм усё ж не на карысьць беларушчыны. Уражаньне, быццам беларускія вершыкі зьмешчаныя «для віду», быццам «у нас нікога не ўціскаюць». Мізэрная колькасьць прыгожых дзіцячых кніг з малюнкамі ў беларускай мове — балючая праблема.*

Сутула Г. **Сьлед на вечным гасьцінцы.** — Менск: Беларускі кнігазбор, 1999. — 80 с. — Наклад 500 ас. ISBN 985-6318-50-5

**Тэатар лялек:** Дапаможнік для выхавальных дашкольных установаў / Пад рэдакцыяй А. Лозкі. — Менск: Полымя, 1998. — 203 с.: іл. — Наклад 2400 ас. ISBN 985-07-0235-4

Альгин Б., Белов С., Харитонович В. **Тракторы «Беларусь» — гордость державы Беларусь.** Развитие, события, люди / Прадмова М.Сьлюнькова. — Менск: Беларускае выд. тав. «Хата», 1998. — 280 с.: табл., іл. — Наклад 2600 ас. ISBN 985-6007-47-X

Бордович А. ды інш. **Сопоставительный курс русского и белорусского языков:** Учебное пособие / А.Бардовіч, А.Гіруцкі, Л.Чарнышова. — Менск: Унівэрсытэцкае, 1999. — 223 с. — Наклад 200 ас. ISBN 985-09-0276-0

*Тэарэтычныя зьвесткі пра агульнае й адметнае ў сыстэме расейскай і беларускай моваў, асаблівасьці культурна-гістарычнага аспэкту фармаваньня беларуска-расейскага дзьвюхмоўя. Кніга скіраваная на паказ не адрозьненьняў паміж беларускай і расейскай мовамі, а — падабенстваў паміж імі.*

Ловчий М. **Экологический анализ структуры и продуктивности сосновых лесов Беларуси.** — Менск: Беларуская навука, 1999. — 263 с. — Наклад 300 ас. ISBN 985-08-0275-X

**Письма к живым: Дайджест газеты «Набат».** — Менск: БелСаЭС «Чарнобыль», 1999. — 464 с. — Наклад 3000 ас.

*Кнігу склалі друкаваныя ў газэце «Набат» на працягу апошніх гадоў артыкулы на чарнобыльскую тэму. Мае дадатак з фотаздымкамі.*

**Чытаў кнігі Віктар Мухін**

Наша Ніва 90 гадоў таму



Апошні плот у колішняй вёсцы Амэрыцы на Кругляншчыне

# Бязьмернае п'янства

*1 кастрычніка 1909 году*

*М.Трабы*, Віленск. губ. Ашмянскага пав. Праўду кажучы, ня надта хочацца і пісаць так шмат аб трабскіх п'яніцах, але пакуль яны не перастануць п'янстваваць, я не перастану пісаць. У нядзелю 23 аўгуста была пагода. Да мястэчка сабралася шмат народу, каталікоў і праваслаўных. Усе корчмы былі занятыя людзьмі-п'яніцамі, а іншыя, не знайшоўшы месца ў корчмах, куплялі гарэлку ці піва і прасіліся ў жыдоў, каб пазволілі выпіць хоць у стадолі ці ў хляве. У нашым мястэчку ёсьць больш сарачні розных піўных, і ў кожнай выпіваюць штосьвята і штоторг каля 30 вядзёр піва і каля 4 гарцоў гарэлкі, а ў часы кірмашоў выпіваюць шмат болей. У нядзелю 23 аўгуста пачалі піць ад паўдня і пілі аж да паўночы. Адзін чэлавек з в.Гомішч, добра падпіўшы, ідучы дахаты, захацеў яшчэ падкрапіцца, дык папаў замест карчмы ў студню; чуць выцяглі яго вяроўкамі за ногі. Другі выходзіў з карчмы, а сходы былі высокія, дык зваліўся на камень галавой. А то яшчэ ў аднэй карчме пакінула кампанія аднаго чалавека, а той ня меў чым заплаціць, дык запёрла яго жыдоўка ў падпечча. Што было зь ім далей, ня ведаю. Зюлька з Замішч, каторы ўваліўся ў студню, пабіў толькі нос і правы бок лоба, і чорт яго ведае, якім дзівам ён астаўся жывы, бо студня глыбокая ды й вада была далёка. Найболей п'яніц ёсьць у вёсках: *Мільках, Лепешках, Замішчах, Кутках, Дзядзічах і Кавалёх*; з гэтых вёсак людзі нярэдка начуюць у рове каля дарогі.

*Доля*

ЭПІКОН

# ГОСЬЦІ ЯК ПРАДМЕТ УЖЫВАНЬНЯ

Якуб КОЛАПС

*Не сакрэт, што ў нашым сьветаўспрыняцьці дом ёсьць як бы працягам нашага цела, яго абалонкай. Натуральна, госьці, пранікаючы пад гэтую абалонку, уваходзяць у нашае цела і выклікаюць пэўную рэакцыю.*

## Госьці як ежа

Нават аматары працяглых галадовак не адмаўляюць неабходнасьці ежы. Гэтак сама неабходныя й госьці, дакладней — госьці звычайныя. Звычайны госьць уваходзіць у наш дом у якасьці не зусім апрацаванага прадукту. Памыцьці спаласнуць яго (хоць бы мінімальна) рэкамэндуюць элементарныя правілы гігіены.

Пэўных гасьцей для паляпшэньня якасьцяў перад ужываньнем трэба падагрэць, пэўных — пакласьці на холад, кагось — патрэсьці ды паўзбоўтваць, кагосьці — памяць, іншых увогуле лепш парэзаць ці пакрышыць. Сырыя госьці падыходзяць далёка ня ўсім і не заўсёды.

Пасьля папярэдняй апрацоўкі звычайнага госьця часта трэба раскусіць, а далей — разжоўваць, глытаць маленькімі кавалачкамі і атрымоўваць асалоду ад ягонага смаку.

Пры ўжываньні гасьцей трэба правільна вытрымліваць баланс іх гарманічнага спалучэньня. Спалучэньне несумяшчальных гасьцей ня проста пагаршае смак, але і выклікае адрыжку, пякотку, непрыемныя адчуваньні ў страўніку, спантанны выхад газаў.

Самая працяглая фаза дачыненьняў з гасьцямі — іх пераварваньне. Каб працэс ішоў пасьпяхова, важна не перабаршчыць з колькасьцю гасьцей. Іначай цяжар у чэраве забясьпечаны. Пры зачастай яго паўторнасьці непазьбежнае ўзьнікненьне хранічных хваробаў.

Ад гасьцей важна рэгулярна апаражняцца. Затрымкі апаражненьняў (запоры) вядуць да інтаксыкацыі арганізму й цэлага букету захворваньняў. Але паскораная эвакуацыя гасьцей таксама непажаданая, бо вядзе да зьніжэньня жыцьцёвага тонусу і не дазваляе атрымліваць карысныя рэчывы ў належнай ступені.

## Госьці як ін'екцыя

Дзеяньне такіх гасьцей некалькі падобнае да дзеяньня папярэдніх, але гэтыя зазвычай дастаткова рафінаваныя і стэрыльныя, каб не праходзіць папярэдняй апрацоўкі перад ужываньнем. У большасьці выпадкаў для іх хапае невялічкага ўзбоўтваньня.

Гэтыя госьці паводзяць сябе роўна, упэўнена і паступова робяцца незаўважнымі. Сыходзяць па-ангельску.

Бываюць надта карыснымі, асабліва ў складаных сытуацыях.

## Госьці як сэксуальныя агрэсары

(Ня блытаць з сэксуальнымі агрэсарамі ў агульнапрынятым сэнсе.)

Гэта — госьці з адной навязьлівай ідэяй. У хаце гаспадара ім заўжды трэба штосьь канкрэтнае, чаго яны і дамагаюцца, а дамогшыся — сыходзяць. Формы іх дамаганьняў могуць быць як надзвычай ветлівымі і прыемнымі (пэтынг), так і грубымі (садызм), што, праўда, таксама не выключае прыемнасьці.

Падарункі такіх гасьцей зазвычай прымітыўныя і аднародныя, але часам могуць быць і карыснымі.

## Госьці як пыл

Нярэдкі тып гасьцей. Вялікіх праблем яны не ствараюць, паводзяць сябе ціха і малапрыкметна. Але, ініцыятывы разьвітацца ніколі не праяўляюць — даводзіцца заўжды ім у тым дапамагаць.

## Госьці як інфэкцыя

Тып на першым этапе падобны да папярэдняга, але ў часовай пэрспэктыве непараўнальна цяжэйшы. Па меры знаходжаньня ў гаспадаравай хаце няўхільна нахабнее ды пачынае «качаць правы». Пазбавіцца ад падобных гасьцей няпроста. Часам патрабуецца дапамога звонку.

***

Можна яшчэ выдзеліць у асобную групу гасьцей, якія пранікаюць у хаты ў ролі рэжучых, колючых ды іншых небясьпечных прадметаў. Іх дачыненьні з гаспадарамі заўжды драматычныя, з доўгім рэабілітацыйным пэрыядам у гаспадароў пасьля і, бывае, прымушаюць тых нават да зьмены жытла. Але, ня будзем пра сумнае... ■



НАША НІВА **КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

Імя і прозьвішча ______________________________

Адрас, тэлефон ______________________________

## прыватныя абвесткі

**Мы** ня супраць падтрымаць прапанаваную рэвалюцыю. Але з кім? Дзяўчаты з Маладэчна

**Прадаю жаночы паўкажушок** з французскага футра, новы, памер 46, колер карычневы, 200 у.а. Тэл.: (0232) 53-89-17

**BLR!** Прывітаньне зь Менску! Жадаем табе захаваць прагу да свабоды й нянавісьць да Лукі. **Monk**, заставайся такім, якім ты ёсьць. Іра ды Юльля

**Прыхільнікі беларускага року** («NRM», «Ulis», «Крама», «Новае Неба», «Кальян», «Deviation»), пішыце: 231300, Ліда, Рыбіноўскага 28-28, тэл.: 3-13-37. Чайко А.

**Віншуем** спадара Бяляцкага з 37-годзьдзем. Дай Божа дажыць да таго дня, калі народ наш зажыве шчасна!

**Новая беларуская газэта** «Палімпсэст». Выходзіць ад верасьня. Ад Вас — чыстая капэрта. Полацак, 211409, а/с 29

**Куплю** вельмі танна кампутар, каб працягваць выпуск адзінага ў Беларусі астранамічнага бюлетэню «Небо и Человек». Беларусь, 220024, Менск, вул.Асаналіева, 13/1, кв.72; тэл.: 2750-705. Вячаслаў Мілкоўскі

Хлопец (23), в/а, **сымпатычны гей**, з гумарам, чакае ліста ад Вас. Вы — ад 18 да 35 з в/а, сымпатычны. 220073, Менск, а/я 187

**Музычныя відэапраграмы**. 960 т. паштовым пераводам. 220107, а/с 150. Фёдараву Дзянісу. Вышлем каталёг

**Малюся** за Беларусь, малюся за Дагестан. У нас адзін і той жа акупант. Ангеліна Масюта

**Vialikalitoŭski šlachcic!** Ustavaj na abaronu Ajčyny! Zmahajsia za adrodžanuju ŭ Horadni Reč Paspalituju!!! Hienerał-major vojsk VKL Bieniedyk Kaściuška. Zapis u armiju VKL pravodzicca ŭ Karaleŭskim pałacy ŭ Horadni

**Vivat!** Haradzienskamu Sojmu Vialikaha Kniastva j Karony Polskaj. Žyvie Deklaracyja Sojmu Ahulnaha 1999 roku! Hietman vialiki Karonny Vinceś Zaremba

**Патрэбны зьвязак** зь беларускімі паганцамі. Напішыце, калі ласка. 222410, Менская вобл., Вялейка, вул.Чапаева, д.74, кв.98

**Прапануем в/а працу** ў хаце (250 у.а.). Гэта Вы можаце! Укладзіце 2 капэрты са зв./а.+ купон б/а: 220089, Менск, а/с 122

**Прадам новы камуфляж**, шалік "Dynamo Minsk". Цікавіць міліцэйская беларуская форма старога ўзору. Тэл.: 274-87-79, Андрэй

**Набуду** 1-3 тамы энцыкляпэдыі **"Беларускія пісьменьнікі"**. Арашонак Арцём, 210001, Віцебск, вул. 6-я Полацкая, 5а

**Прадаю сьвіны тлушч**, зусім сьвежы, вельмі танна. Тэл.: (01777) 700-84, Алесь

**Патрабуецца пэдагог-выхавацель**, які добра валодае беларускай мовай, для працы зь дзецьмі 4-6 гадоў. Аплата каля 40 у.а. у месяц. Тэл. у Смалявічах: (8-276) 43-2-82 (спытаць Яну)

**Згублены студэнцкі білет** № 96/68 на імя Прытульчык І.В. лічыць несапраўдным

**Газэта прымае таксама абвесткі большым шрыфтам за невялікую плату**
*— да 20 словаў — **50 000** руб., звыш 20 словаў — **70 000** руб.;*
*— па-мастацку афармленая аб'ява – **20 000** руб. за 1 кв. см;*
*— па-мастацку афармленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету — ад **40 000** руб. за 1 кв. см.*
*За аб'яву пра сямейныя падзеі — зьніжка.*

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*

На зваротным баку бланка паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*

## паштовая скрынка

**Міхалу З.** зь Менску. *Расейскіх камуністаў у Беларусі сьвет, а каго Вы залічаеце да нацыянальных?*

**Зьмітру Д.** зь Менску. *Пераклад добры, але апавяданьне Кумара надта фальклёрнае. Мы такія сустракалі ў дэмбельскіх альбомах. У «НН» глядзелася б трохі недарэчна.*

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Адказны сакратар Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Набор Насты Дзядзенкі. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.
Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 2806. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 3:06, 27.09.1999. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 4940. Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр.газэты «Известия», д. 8, кв. 173.